

Рэканструкцыя касьцюма дзяўчыны XI ст.
в.Ворань, Лепельскі раён, Віцебская вобласьць.

# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451





На развароце: **Міхась Басалыга.** Кірыла Тураўскі

На першай бачынцы вокладкі: ікона Прэсьвятой Багародзіцы з амафорам над Жыровіцкім манастыром

На чацьвёртай бачынцы вокладкі: Маламажэйкаўская царква



# Пачуй, о, Ласкавая Маці...

Барыс Данілюк

Пачуй, о, Ласкавая Маці,
Маю Ты шчырую прасьбу
Ды памажы ў маім няшчасьці,
Збаўной дарогай накіруй.
Блуднымі сьцежкамі ступаю
Здалёк ад Божага шляху,
Крамя Цябе я ўжо ня маю
Надзеі выйсьці, каб з граху.
Ты ўсіх гаротных Апякунка,
Ўпрашальніца за нас адна,
Дык не адмоў і мне ратунку—
Руку паможную падай.
Ўпрасі мне ласку ў Твайго Сына
Адрозьніць блага ад дабра,
Жыцьця майго, каб каляіна
Ў дагодны Богу бок пайшла.
Каб быць слугою Божай Волі
Як доўга жыць мне застае
Й дабра ўчыніць яшчэ даволі
Ў вадплату за грахі мае.
Было каб лёгкім разьвітаньне,
Калі канец жыцьця прыйдзе,
Й маёй душы каб зьмілаваньне
На Канцавым здабыць Судзе.
О, ўваж Прабачлівая Маці
З трывожным сэрцы як прашу:
Ня дам у блудзе мне прапасьці,
Ад згубы выратуй душу!

*Малітва «Пачуй, о, Ласкавая Маці» прысьвечаная Жыровіцкае Божае Маці, заступніцы беларускага народу (сьвяткуецца 20 травеня). Гэта ёсьць адна з 16 пабожных і сьвяточных песьняў, якія ўваходзяць у падрыхтаваны Барысам Данілюком зборнічак пад назовам «Душыныя пасьпевы», музыку да якога апрацаваў кампазытар Уладзімер Бучэль.*

# Пачуй ,о, Ласкавая Маці

Словы й мэль. Б. Данілюка Гарм. Ул. Бучэль

Adagio M ♩ = 72

1. Па-чуй, о, лас-ка-ва-я Ма-ці ма-ю Ты шчы-ру-ю прась-бу Ды па-ма-жы ў ма-ім няш-час-ці, Збаў-ной да-ро-гай на-кі-руй.

2. Блуд- шу.

# ЗѢРЦАЛО ЖИТИЯ

## Ен памёр за нас




Ядзьвіга Дзьвінская

Дарагі, любы сэрцу Спаса-Еўфрасіньнеўскі манастыр. Колькі тут сьветлага, добрага, шчырага спалучана з табой. Ці магла я падумаць, што пройдзе сем гадоў і зноў пабачу цябе, а сэрца маё ныла і думкамі была ў Полацку. Сёньня мара мая зьдзейсьнілася.

Цесная, старажытная царква, на нашае шчасьце, яна захавалася нам у сваім першапачатковым выглядзе. Сёньня мы аглядаем дзіўныя старажытныя фрэскі XII ст. Тут, у гэтай царкве, нарэшце, спачывае наша матуля, наша князёўна, наша патронка, наша прэпадобная Еўфрасіньня.

Побач, зь левай стараны Спаскай царквы, стаіць велічыны Крыжаўзьдвіжанскі сабор, пабудаваны ў мінулым стагодзьдзі архітэктарам В.Коршыкавым. Сюда сьпяшаюцца людзі-палачане на вячэрняе богаслужэньне. Неўспадзеўкі чую галасок:«Штож гэта за сьвята сёньня?» Азірнулася я і бачу маладую дзяўчынку, якая папытала бабульку, апранутую цёмна, жалобна. Тая зласнаватым позіркам глянула на дзяўчынку, тут-жа перахрысьцілася, просячы, мабыць, прабачэньня і адказала: «Божа ты мой. Нічога гэтая моладзь ня ведае. Сёньня паграбеньне Гасподне». Яна яшчэ раз перахрысьцілася і хуценька ўвайшла ў сабор.

Я спачувальна ўзяла дзяўчынку за руку. Мы, перахрысьціўшыся, ўвайшлі ў сабор. Мы пабачылі безьліч палымнеючых сьвечак і горку кветак, а тут толькі пачатак вясны, красавік. З-за кветкамі ледзь прыкмеціла, у цэнтры невысокая,невялікага памеру грабніца, пакрытая пакрывалам, вакол яе палаюць лампадкі і сьвечкі. Перад ёй схіляюць галовы, становяцца на калені, б'юць паклоны. На левым клірасе хор пеўчых, на правым хор манашкаў, гэтых адданых, прачулых слугаў Хрыстовых. На верхніх хорах чуваць прыцішаны сьпеў архірэйскага хору. Сабор напаўняецца людзьмі.

Я спачатку купляю сьвечку і стаўлю перад іконай Міколы цудатворца, шапчу малітву, прашу яго аб застпніцтве перад Богам. Тады стараюся прабрацца да япіскапскай кафэдры, каб вуснамі сваімі пацалаваць пакрывала, для нас, веруючых, была яна Плашчаніца. Я толькі дакранулася яе, як адчула хваляваньне людзей. Адкрылася «царская брама», і на амбоне зьявіўся ў парчовым сакасе высокі, прыгожы ў мітры япіскап. Мітра ягоная зіхацела ад каменчыкаў. У ягонай правай руцэ быў крыж, у левай вялікая сьвечка. Вакол япіскапа Полацкага і Віцебскага Дзьмітрыя дзесятак сьвятороў і дыяканаў. Яны зыходзяць з амбона, манашкі чытаюць малітвы ,чуюцца словы: «Прости грехи наши, яко согршили пред Тобой». Уладыка падыйшоў да грабніцы, укленчыў, хрысьціцца, цалуе Плашчаніцу. Я разгублена, не магу адарваць вачэй ад Архіпастыра, хочацца сьледаваць вачыма за царкоўнай цырымоніяй, а ўнутры жаданьне маліцца, маліцца, што даў Ён мне мажлівасьць пабываць у Полацку і ўдзельнічаць у ўрачыстасьці.Бачу Уладыка беражна, датыкаецца рукамі да Плашчаніцы, прыпадымае яе, сьвяшчэн-

наслужыцелі сьпяшаюцца дапамагчы яму — усе разам уздымаюць яе высока. Уладыка падыходзіць пад Плашчаніцу,сымбалічнае цела Госпада нашага Ісуса Хрыста. Хор сьпявае «Благаобразны Іосіф», працэсія накіроўваецца да выхаду, на дварэ цішыня.

За духавенствам ідуць манахіні ў чорных ваўняных расах, у клобуках за імі харысты, а далей палачане. У руках кожнага сьвечка гарыць, і гэты паток людзей абвіў амаль плошчу сабору. Архірэйскі хор гучна сьпявае, яму ня толькі дапамагаюць манахіні, але прыхажане. Прыпушчаю, што ня толькі я, але й іншыя адчулі, што гэта нязвыклая працэсія, што мы ўдзельнікі паховінаў, якія адбыліся амаль два тысячагодзьдзі назад. Першы круг кростнага ходу закончыўся, пачаўся другі, трэці. Працэсія, ўзначаленая япіскапам, уваходзіць у сабор і кладзе Плашчаніцу на сваё месца. Сьвятая вера і надзея ўваскрашэньня адчуваецца ў душы. Я стараюся знайсьці ў памяці адпаведныя малітвы, якіх нас баяліся вучыць.

Я стараюся падшукаць адпаведныя словы малітвы, калі раздаўся гучны барытон дыякана : «Пакі, пакі Госпаду памолімся» Я стаю цяпер і слухаю мілагучныя галасы пеўчых.

Стаю і слухаю, бо зачараваная прыгажосьцю напеву. Бачу на амбон выйшаў Яго Прэасьвяшчэства Дзьмітры, беларускі япіскап наш Полацкі і Віцебскі. Ён жэстам рук сваіх багаславіць нас міран: «Мир всем!»

Госпадзі, дзякуем, што мы можам маліцца, што можам працягваць традыцыі продкаў нашых. Нас абкрадалі новаідэёлягі, не рабілі гэта зь нявуцтва, але сумысьля. Аднак, боскіх законаў не перамаглі, душу нашу не занячысьцілі, яна прадыктавала нам прысьці сюды ў сабор памаліцца. Мы атрымалі сілы прапаведываць міласэрднасьць, пашану, прыгажосьць.

Перад намі Вялікдзень, калі пачуем ў вялікодную поўнач: «Хрыстос Увакрос!»



У Спаскай царкве Спаса-Еўфрасіньнеўскага манастыра Фота. А. Марцінкевіча

# З АРХІВАЎ КДБ

## Аляксандр Цьвікевіч: «Ліквідацыя БНР не была манэўрам»

Як я ўжо сказаў вышэй, я ня зжыў пасьля пераезду ў Менск сваіх нацыянальных настрояў і ўстановак, але імкнуўся прымірыць іх, арганічна зьвязваў з будаўніцтвам савецкай Беларусі. Мне спачатку здавалася, што такое прымірэньне будзе магчымым, калі за аснову прыняць беларускую культуру, пралетарскую й інтэрнацыянальную па зьместу і нацыянальную толькі па форме. Але вось ў гэтым асноўным пункце я доўга сумніваўся і хістаўся, бо бачыў, што крыніцай беларускай нацыянальнай творчасьці зьяўляецца выключна сялянства. Хістаньні былі не такія ўжо істотныя, не такія контррэвалюцыйныя, як устаноўка, каб уплыў на беларускае культурнае будаўніцтва рабіла інтэлігенцыя. Гэта была ўжо адна контррэвалюцыя з боку гледжаньня рабочай клясавай дзяржавы, бо пры гэтым быў адрыў ад партыі, супрацьпастаўленьне інтэлігенцыі пралетарыяту й яго дыктуючаму, адзначанаму становішчу. Беларуская інтэлігенцыя, і я ў тым ліку, былі хворыя нацыяналізмам, а гэта вяло несьвядома або сьвядома (ня мае розьніцы) да падрыву дыктатуры пралетарыяту.

Калі пабудаваць пытаньне прама—як я ўяўляў сабе палітчнае «заўтра» савецкай Беларусі, і ці быў я задаволены ягоным сёньня, то я мусіў адказаць, што гэтым сёньня я не задаволены, але палітычнае заўтра я не ўяўляў сабе інакш, як у форме савецкай Беларусі. Я ня быў задаволены сёняшнім днём, але ня ў сэнсе эканамічнага разьвіцьця БССР, якое несумніўна, а ў сэнсе недастатковага разьвіцьця беларускай культуры. Я быў упэўнены, што БССР можна зрабіць, калі можна так сказаць, больш «беларускай», чым яна ёсьць, што беларускі элемент (беспартыйны або партыйны — гэта ўсё роўна) ў БССР недастатковы, што сэнс яго малы, што разьвіцьцё беларусызацыі ідзе марудным тэмпам, зь незразумелымі перапынкамі, што беларуская творчасьць, літаратура, мастацтва, навука разьвіваюцца мала менавіта таму, што на ўсім ляжыць пячатка нейкіх несурьёзных адносінаў да беларускай культуры, што яна чымсьці затрымоўваецца. Незадаволенасьць мая была зразумела акрэсленай ,я не хаваў гэтага сярод сяброў, зьдзіўляўся, чаму такія ўплывовыя асобы, як, напрыклад Ігнатоўскі, Чарвякоў, ня могуць паставіць пытаньне больш цьвёрда. Я лічыў, што ўсе падобныя людзі няшчырыя перад партыяй і баяцца паставіць пытаньні рашуча, што яны «дыпляматнічаюць», г.зн. берагуць сябе, а не служаць справе. У чым была шкоднасьць, контррэвалюцыйнасьць падобнай

(Заканчэньне. Пачатак ў № 2(12))

устаноўкі? У тым, што я ў сваёй крытыцы не рабіў рэзкай розніцы у тым, як, пры якіх умовах, якімі шляхмі ізь якімі цяжкасьцямі будуецца беларуская нацыянальная культура. Было, што я сьвядома смазваў рэзкую клясавую пастаноўку ў гэтым пытаньні, думаў, напрыклад што сялянскія матывы і настроі ў літаратуры—рэчы нармальныя, што максімальнае разьвіцьцё нацыянальнага пачуцьця — небясьпечна для сацыялістычнага будаўніцтва і т.д. На самой справе гэта ня так. **На самой справе тут патрэбна вялікая выразнасьць і асьцярожнасьць, патрэбна вялікая клясавая насьцярожанасьць, бо нацыянальныя тэндэнцыі і сутнасьці супрацьпастаўлены інтэрнацыянальным, бо яны прама і непасрэдна перарастаюць ва ўмовах БССР ў нацыянал-дэмакратызм, у контррэвалюцыю.** Ці разьвіваў я ў сябе гэтую насьцярожанасьць, ці падыходзіў да пытаньня аб будаўніцтве беларускай нацыянальнай культуры менавіта з гэтым унутраным пострахам, застаўляючы і сябе, і сябору вакол мябе быць за прэваліраваньне інтэрнацыянальнага пачатку над нацыянальным, падпарадкоўваючы сябе й іншых рашэньням партыі і тактыкі партыі ў нацыянальным пытаньні? Не. Я не застаўляў і не падчыняў сябе гэтаму, а значыць, перашкаджаў справе, ускладняў цяжкасьцямі г.зн, зноў-такі займаў контррэвалюцыйную пазыцыю. Бо тут поглядаў і пасрэдніх пазыцый не было. Адно з двух: або з партыяй, згодна яе рашэньняў, або супроць яе рашэньняў, а значыць, супроць сацыялістычнага будаўніцтва. Такі закон агульнай працы, усеагульнай цьвярдзейшай дысьцыпліны, безь якой на другі-ж дзень сыстэма ўлады і барацьба за сацыялізм разьвінціцца і замест акрэсленай і цьвёрдай лініі ў цяжэйшых умовах зойме месца расхлябанасьць, найлепшая глеба для посьпехаў усякіх контррэвалюцыйных ухілаў і выступленьняў. Тут неабходна сьвядомае самаабмежаваньне крытыкі — індывідуальнае абмежаваньне перад тварам кіруючага кляса, з чым я, інтэлігент-індывідуаліст, заражаны дробнабуржуазнымі нацыянальнымі настроямі не згаджаюся.

Як жа я ўяляў сабе заўтрашні дзень БССР? Ці падымаў я ў сваіх думках руку за зьвяржэньне савецкага ладу? На гэта я павінен прама і катэгарычна адказаць: не, не падымаў. У данным выпадку ўва мне казаў не нацыянал, а палітык. Будучы незадаволены перажываемым этапам культурнага разьвіцьця будаўніцтва БССР, я баяўся думаць аб якой-бы то ні было спробе перамены ўлады, бо разумеў, што ліквідацыя Саветаў азначае пераход Беларусі пад уладу белай Польшчы або пад уладу белай Масквы, што адно і тое-ж. У абодвух выпадках беларускі рух чакаў-бы поўны разгром і была-б згубленая на доўгі час надзея на якое-небудь культурнае й эканамічнае адраджэньне краю. У гэтым выпадку, мы былі-бы адкінутыя назад, да умоваў царызму або да умоваў сучаснай заходняй Беларусі, бо я за мяжой меў мноства выпадкаў упэўніцца, як ставяцца да нацыянальнага пытаньня былая расейская эміграцыя. Для мяне такі вынік уяўляўся безумоўным. Пры гэтай ўмове надзеі на сялянства або на кулацкую вярхушку яго, як на аснову эвентуальнай беларускай дэмакратычнай ўлады, здаваліся мне бессэнсовымі. Я ведаў, што, па-першае, сялянства наогул, хаця і прасякнута моцным нацыянальным пачуцьцём (як, напрыклад, польскае сялянства), ніколі ня зможа стварыць дзяржаву, па-другое, спробы і надзеі слабой праслойкі беларускай інтэлігенцыі стварыць «незалеж-

ную» Беларусь — ёсьць палітычная авантура, вяртаньне да БНР-аўшчыны, у якой я варыўся 6-7 гадоў і якую пахаваў сваімі рукамі.

Пры гэтым цьвёрдым перакананьні маім выяўлялася мая незадаволенасьць тэмпамі й умовамі будаўніцтва беларускай нацыянальнай культуры ў БССР, аб якім я казаў вышэй. Калі ўдумацца і прыняць пад увагу, што мая пазыцыя ў гэтым пытаньні зрывала лінію партыі, зрывала жалезную дысьцыпліну сацыялістычнага будаўніцтва, то атрымаецца, што мая пазыцыя, настроі і незадаволеныя «размовы» азначалі зыходжаньне на рэльсы контррэвалюцыі. Гэта я мусіў-бы разумець і супраць гэтага я мусіў-бы змагацца, але я гэтага не рабіў.

Размоваў, гутарак на тэму аб палітычным разьвіцьці БССР, тым больш аб барацьбе за БНР, за «незалежную дэмакратычную Беларусь» я ніколі ні зь кім ня меў. Мне здавалася, што так, як я думаю, думаюць усе мае сябры. Яны таксама незадаволены не палітчнай формай існаваньня Беларусі, а тэмпамі разьвіцьця беларускай культуры. Маё жаданьне было, каб Беларусь была-б у нацыянальна-культурным сэнсе столь разьвітой, як сучасная Расія або будучая савецкая Польшча. Але вельмі далёка да таго часу, калі наш савецкі Менск будзе настолькі беларускім, наколькі расейскім зьяўляецца чырвоная Масква і наколькі польскай будзе будучая чырвоня Варшава. Часам ўзьнікае сумненьне: ці будзе калі-небудзь наогул Менск блізкі да гэтага ідэялу, ці вырасьце настолькі беларуская культура? Тэмпы сучаснага тэхнічнага разгону, тэмпы росту інтэрнацыянальнага эканамічнага абмену і г.д. не перавышаюць ва ўмовах СССР тэмпу культурнага росту, разьвіцьця нацыянальнай творчасьці БССР. Ці не спазьнілася наогул Беларусь выйсьці на гістарычную арэну? Ці будзе пасьпяховай барацьба партыі зь вялікадзяржаўным вялікарасейскім шавінізмам, які мае такі каласальны рэзэрв, як магутная расейская культура? Гэтыя сумненьні, якія атручваюць жыцьцё, зьнікаюць тады, калі прачытаеш паведамленьні, што за справу свайго нацыянальна-культурнага адраджэньня пад кіраўніцтвам партыі і пры яе актыўнай дапамозе бяруцца такія адсталыя народы, як самаеды, татары і г.д. Што датычыцца вялікарасейскага, вялікадзяржаўнага шавінізму, то перамога яго азначала-б пагібель Савецкай улады, г.зн. становішча, пры якім наогул ўся праблема будаўніцтва БССР была-б нізьвергнута.

Што датычыцца паказаньняў Ів. Цьвікевіча[1] адносна В.Ігнатоўскага, я прыгадаў, што падобная размова мелася у мяне калісьці за мяжой з П. Крэчэўскім. Ён казаў мне калісьці ў Празе або Бэрліне, гадоў 6-8 назад, што ў яго ёсьць сябра ў Менску — Ігнатоўскі—стары сябра па сэмінарыі, зь якім яны разыйшліся ў 1919 годзе па формуле : «Ты ідзі працаваць для Беларусі на Захад, а я пайду працаваць на Ўсход».



---

1. Іван Цьвікевіч, брат Аляксандра Цьвікевіча. (Аб А.Цьвікевічу глядзі № 2, (12)) Нарадзіўся ў Берасьце ў 1891 г. Скончыў мэдыцынскі факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту ў 1914 г. У часы І сусьветнай вайны служыў у царскай арміі. З канца 1917 г. жыў і працаваў у Маскве доктарам і ў Наркамасьвеце. У 1918 -1920 гг. вайсковы лекар Чырвонай Арміі. З 1923 г. працаваў у Беларускім Дзяржвыдавецтве, адначасова Інбелкульце.

Арыштаваны 18 ліпеня 1930 г. па справе СВБ. Прыгавароны да 5 г. канцлягероў. Пасьля вызваленьня зноў арыштаваны. 1 ліпеня 1938 асуджаны да вышэйшай меры пакараньня. Прыгавор прыведзены ў выкананьне.

# Палітычны партрэт Зьміцера Жылуновіча


Мікалай Сташкевіч
Юры Смірноў


Палітыка і практыка сацыялізму як ў цэнтры, так і на месцах прымала ўсё болей жорсткія абрысы. Адбывалася сьвярджэньне і кансідэрацыя формаў і прынцыпаў *арганізатарскай, гаспадарчай, ідэялягічнай* працаў, адэкватных прыродзе і патрэбнасьцям узмацьніўшыйся адміністратыўна-каманднай сыстэмы. Усякі рух думкі, а тым больш іншы погляд зачастую траплялі у разрад «подрывающих уклад социализма». Пошукі іншых, ня сталінскіх канструкцыяў, формаў і мэтадаў пераўтварэньня грамадзтва, правядзеньня нацыянальнай палітыкі абвяшчаліся ерасью і траплялі пад шэльмаваньне. А калі патрабавалася практычна ўмацаваць сталінскі тэзіс аб абвастрэньні клясавай барацьбы ў працэсе будаўніцтва сацыялізму, то адміністратыўна-бюракратычная вярхушка хутка схапілася за існуючы плюралізм поглядаў у пытаньнях нацыянальна-культурнага будаўніцтва як за выказваньне быццам-бы абвастрыўшагася клясавага супрацьборства у беларускім народзе. Усё, што не ўкладалася у канструкцыю сталінскіх установак, абвяшчалася варожым ленінізму. Так, пачынаючы з другой паловы 20-х гадоў многіх бачных прадстаўнікаў навукі і культуры БССР усё часьцей сталі абвінавачваць у «нацыянал-дэмакратызме».Гэтым паняцьцем першапачаткова акрэсьлівалася так называемая правая небясьпека ў культурным будаўніцтве. Нацыянал-дэмакратызм азначаўся тэндэнцыяй ставіць нацыянальныя інтарэсы вышэй клясавых, «гадаваць нацыянальную форму культуры ва шкоду пралетарскаму зьместу» (Майзель Ю., Шапавалаў М, Кароткі нарыс гісторыі КП(б)Б. Мн., 1929 , б.4)

У 1930 г. ацэнкі нацыянал-дэмакратызму *ўзмацьніліся: пад ім ў партыйных дакумэнтах* і друку падводзіліся варожая савецкай уладзе ідэялёгія і практыка контррэвалюцыйнага нацыяналістычнага руху, які быццам-бы ставіў сваёй мэтай рэстаўрацыю капіталізму ў Беларусі. (Трэцяя сэсія ЦВК ВССР XI склíканьня, 10-18 сьнежня 1930 г. Мн., 1931). І хаця існаваньне, а тым больш якое-небудзь арганізацыйнае афармленьне такога напрамку хутчэй былі палітычным міфам, чым рэчаіснасьцю, аб іх з нарастаючым накалам страсьцей крычалі на бачынках друку, на сходах, паседжаньнях. Усе мацней праяўлялася імкненьне надаць нацыянал-дэмакратызму нацыянальнае гучаньне, г. зн. яго спрабавалі трактаваць як ледзь не прадукт нацыяналізму чыста беларускай афарбоўкі.

У рэзалюцыі па дакладу аб прафсаюзах XII зьезду КП(б)Б зьмяшчалася яўна інспірыраваная апаратнымі дагматыкамі формула, згодна якой галоўнай небясьпекай у правядзеньні нацыянальнай палітыкі ў Беларусі *абвяшчаўся беларускі нацыянал*-дэмакратызм. Гэты тэзіс, як няправільны і супрацьлеглы рашэньням X, XII, ХУІ зьездаў ВКП(б), быў адменены ХІУ зьездам Кампартыі Беларусі у студзені 1932 г.

Тым ня меньш, бічываньне нацыянал-дэмакратызму працягвалася. У ролі абвінавачваемых усе часьцей называліся такія вядомыя дзеячы, як Д.Жылуновіч,

(Працяг.Пачатак у № 2(12))

У.Ігнатоўскі, Д.Прышчэпаў, А. Баліцкі, П. Ільючонак, А.Ульянаў, М.Кудзелька (Міхась Чарот), П. Галавач, А.Адамовіч і іншыя, асабліва тыя зь іх, хто да ўступленьня ў ВКП(б) належыў да рэвалюцыйна-дэмакратычных арганізацыяў.

Д.Жылуновіч, як чалавек пошуку, які не баяўся адкрыта выказваць свае погляды, больш чым іншыя давалі повадаў і матэрыялаў для крытыкі, якая часьцей за ўсё была праўдзятая, і абвінавашчаньняў, шмат у чым надуманных.

У 1928 г. Жылуновіч, будучы загадчыкам Глаўмастацтва Наркомасьветы БССР, прыняў удзел ў тэатральнай дыскусіі, які для яго і некаторых іншых дзеячоў меў цяжкі вынік. У сваім артыкуле, напісаным у час дыскусіі і пад яе уплывам, Жылуновіч выступіў за пашырэньне ў рэпэртуары тэатраў рэспублікі твораў беларускіх драматургаў. Ён быў супраць перакладу на беларускую мову п'ес, якія прайшлі на сцэне расейскіх тэатраў і былі знаёмыя гледачу. На сваю бяду, ён аднёс да гэтай групы і некаторыя п'есы савецкіх аўтараў, у тым ліку і п'есу Іванова «Браненосец 14-69». Акрамя таго, ён выказаўся за пераклад і ўключэнь-не ў рэпэртуар беларускіх тэатраў п'ес, напісаных прагрэсыўнымі зарубежнымі драматургамі, напрыклад. Б.Брехтам. У атмасфэры нарастаючай ідэялягічнай ба-рацьбы гэтыя думкі пазьней былі расцэ-неныя як нацыяналістычныя, кваліфі-каваліся як ухіл ў самабытнасьць і арыен-тацыя на Захад. Прыхільнікам «клясава-вытрыманай лініі» асабліва не спадабалася, што Жылуновіч ў сваім артыкуле не асудзіў пазыцыі Т.Глыбоцкага (А.Дудара), хаця ў пастанаўленьні ЦК КП(б)Б ад 17 сьнежня 1928 г. адзначалася, што ў артыкулах Т.Глыбоцкага замененыя спробы абасабленьня беларускай культуры ад традыцыяў і уплываў расейкай культуры, зьявілася тэндэнцыя ідэялізацыі культурнай спадчыны беларускага народу (ЦПА КПБ, ф.4. оп. 3. ст. 31, лл. 300-301).

Тое, што Жылуновіч не адмежаваўся «от вредных политических установок Глыбоцкого» было расцэнена як салідарнасьць зь яго думкамі і меркаваньнямі. Пастанаўленьнем Бюро ЦК КП(Б)Б Жылуновічу была абʼяўленая вымова «за то, что он как кандидат в члены ВК и руководитель Главискусства Наркома просвящения, выступая в печати по принципиальным вопросам, решенным партией, не осветил в своих статьях имеющихся постановлений по этому вопросу ЦК КП(б)Б» (ЦПАКПБ, ф 4. оп. 3. сп. 31, лл. 300-301).

17 сьнежня 1928 г. Парткалегія ЦКК КП(б) абʼявіла Д.Жылуновічу вымову за нявытрыманасьць, спробу ўціску крытыкі недахопаў Дзяржархіву, ў якім ён быў загадчыкам па сумяшчальніцтву. Штуршком для новага уколу паслужыў ліст у газэту «Зьвязда» супрацоўніка архіва Ярмаловіча, Гэты ліст меў адбітак асабістай непрыязьні да Д.Жылуновіча (ЦПА КПБ, ф.15, оп.2, сп. 520)

У абстаноўцы, калі пачалася кампанія барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам, 27 чэрвеня 1929 г. на пасяджэньні ЦК КП(б)Б артыкул Жылуновіча «20 год назад (успаміны зь мінулага)» быў аддадзены пад вагонь крытыкі. Таксама было вырашана даць у друку крытыку шэрагу палажэньняў, якія мелі месца ў артыкуле. Д.Жылуновіч быў звolены з працы ў рэдакцыі часопіса «Полымя» ( ЦПА КПБ, ф.4, оп.3, сп.33), а 11 верасьня 1929 г. —ад пасады намесьніка наркома адукацыі і загадчыка Глаўмастацтвам.

Крытычны націск у адносінах да яго

нарастаў. Парттройка ЦКК КП(б)Б 16 верасьня 1929 г. аб'явіла Д.Жылуновічу вымову за «няўважлівыя адносіны і несур'ёзны падыход пры абгаворваньні кандыдатур, прадстаўленых да ўзнагароджаньня ордэнам Працоўнага Сьцягу» (ЦПА КПБ, ф. 15, оп. 3. сп 1031. л.100)

У час новай чысткі партыі 13 лістапада 1929 г. Камісія праверкі і чысткі складу ячэйкі КП)б) Б Наркомасьветы, прыгадаўшы Д. Жылуновічу ўсе ягоныя грахі (большай часткаю неіснуючыя, надуманыя), выключыла яго з партыі «за систематическое высказывание взглядов, объективно направленных против партии и социалистического строительства, бюрократизм і оторванность от партийной жизни» ( ЦПА КПБ' ф.15, по 1. сп 160, л 333)

Асноўваючыся на вульгарызатарскім тлумачэньні асобных ацэнак, якія мелі месца у публікацыях і выказваньнях Д. Жылуновіча, не выключаючы і прамыя паклёпы, якія рабіліся яго ворагамі, праверачная камісія па сутнасьці негатыўна ацаніла агульна-палітычныя, навуковыя погляды Д.Жылуновіча, кваліфікавала іх як «нацыянальна-дэмакратычныя», што ужо само па сабе разглядалася у той час як вялікая крамола. Ён абвінавачваўся ў ідэялізацыі беларускага нацыянальнага руху, дакастрычніцкага пэрыяду, у быццам-бы неправільным адлюстраваньні гісторыі утварэньня Савецкай Беларусі, у тым што па-сапраўднаму не раскрываў ролі КП(б)Б у стварэньні БССР, перабольшваў значэньне беларускіх камуністычных сэкцыяў РКП(б) у ажыцьцяўленьні нацыянальнай палітыкі ў Беларусі.

Жылуновіч, як публіцыст-гісторык стаў адной з першых ахвяраў канцэнтраваных атак, напраўленых на перагляд канцэпцыяў, у якіх находзілі то або іншае адлюстраваньне нацыянальныя ідэі. Безумоўна, у гістарычнай літаратуры 20-х гадоў многае патрабавалася ў крытычным перасэнсаваньні: у ей меліся асобныя вульгарна-сацыялістычныя палажэньні, тэорыі самага living рознага толку. Але часта крытыка іх вялася далёка не па навуковым мэтадам.

Пасьля выключэньня з партыі Жылуновіч 13 сьнежня 1929 г. падаў заяву у ЦКК КП(б)Б ( надрукавана ў газэце «Рабочий» № 291 ад 21 сьнежня 1920 г. у выглядзе артыкула «Мои ошибки и их корни»). У гэтай несумненна зробленай пад ўціскам заяве, ён спрабаваў прааналізаваць свае «памылкі». Больш таго, прызнаў, што яны аб'ектыўна «сослужили службу национал-демократам». Таксама ён выказаў жаданьне выправіць свае памылкі, застаючыся у радах партыі. (ЦПА КПБ, ф.15, оп.3, сп.1031. лл. .3. 92-93).

Прэзыдыюм Менскай акруговай кантрольнай камісіі, разглядзеў заяву Д.Жылуновіча, 14 студзеня 1930 г. і ацаніў пастанаўленьне праверачнай камісіі як правільнае. Але улічваючы, што прызнаньнем сваіх «нацыянал-дэмакратычных памылак» як сыстэмы поглядаў , накіроўваемых супроць партыі, друкаваньнем артыкула «Мои ошибки и их корни» выступленьнямі у час чысткі ячэйкі Акадэміі навук ён зрабіў першы крок да барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам, Прэзыдыюм палічыў мажлівым «тов. Жилуновича в партии оставить, объявив ему за идеологические колебания строгий выговор с предупреждением» (ВПА КПБ' д.15, оп. 3. сп. 1031, л 107).

Але гэтае выратаваньне абыйшлоса Д.Жылуновічу вельмі дорага. Ён фактычна аказаўся вымушаным прызнаць тое, з чым ня быў згодны, асудзіць тое, што у душы лічыў правільным. Словам, гэта быў чалавек у нечым ужо надломлены. Партыйна-

бюракратычная сыстэма ўцягнула яго у сваю арбіту, ператварала у заложнікам ідэялягічных домг, насаджаемых сталінізмам.

Кампанія па абвінавачваньню ў нацыянал-дэмакратызме набірала ўсё большую сілу. Дасьледваўшая ў травені-чэрвені 1929 г. практку правядзеньня нацыянальнай палітыкі ў БССР камісія ЦВК ВКП(б) пад кіраўніцтвам В.Затонскага у сваім заключэньні разам зь іншымі, шмат у чым фальсыфікаванымі сьведчаньнямі памылак, якія дапушчаліся у рэспубліцы ў правядзеньні гэтай палітыкі, зрабіла разбор і рэзка пакрытыкавала працы Д.Жылуновіча й У. Ігнатоўскага за быццам-бы існуючыя у гэтых творах тлумачэньня гісторыі беларускага народу у нацыянал-дэмакратычным духу.У нагнятаньні ідэялягічнай гістэрыі, ракавую ролю адыйграў кастрычніцкі (1930 г.) пленум ВК КП(Б)), на якім у якасьці абвінавачваемых фігуравалі зноў Д.Жылуновіч, У.Ігнатоўскі, А.Адамовіч і іншыя.

Жылуновіч робіць яшчэ адну спробу адмыцца ад абвінавачваньняў, У 1931 г. у першым нумары часопіса «Камуністычнае выхаваньне» зьяўляецца артыкул Д. Жылуновіча «Нацыянал-дэмакраты за «працай». Па яго просьбе яна наперад рэцэнзавалася рэдактарам часопіса Бэнде, чалавекам, які

Надрукаваўшы артыкул, рэдакцыя часопіса адначасова накіравала у рэдакцыю «Советской Белоруссии» ліст Бэндэ (надрукаваны 16 красавіка 1931 г.), у якім сьцярджалася, што Д.Жылуновіч толькі для выгляду крытыкуе нацыянал-дэмакратызм, а ў сапраўднасьці замаскіравана вядзе паклёп на Савецкую уладу.

Абараняючыся ад нападак, якія насілі характар прамога даносу, Д.Жылуновіч зьвярнуўся зь лістом у ЦКК КП(б) , у якім апісаў абставіны падрыхтоўкі, сутнасьць і накіраванасьць артыкула. Рэзалюцыя старшыні ЦКК А.Я. Калініна на лісьце казала: «Собрать все материалы, проверить и дать свое заключение. Тут надо хорошо разобраться. Критиковать можно и надо ошибки, но не шельмовать, когда это неправда.» (ЦПА КПБ, д.15, оп. 5, сп. 85. ь 10-15)

Па вініках дасьледваньняў газэта «Звязда» ад 19 красавіка 1931 г. зьмясьціла артыкул «Недапушчальны перагіб», у якой дзейнасьць рэдакцыі й яе ліст ў «Советскую Белоруссию» падпалі пад крытыку і былі кваліфікаваныя як нарушэньне пастановаў ЦКК ВКП)б) і наступнага пленума ЦКК и ЦККП(б) .У артыкуле ўказвалася, што рэдакцыя часопіса «Камуністычнае выхаваньне» пайшла па лініі «цкаваньня, а не дапамогі Жылуновічу».(ЦПА КПБ. ф. 15, по. 5, сп. 85, л. 11).

(Заканчэньне ў наступным нумары)



Яўген Ціхановіч

# ЛІСТЫ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## Навіны нашага жыцьця

Ігар Бараноўскі, Юрась Сьцяпанаў, Анатоль Старадарожскі

### *Берасьцейшчына*

У хвалёным бальшавікамі ардэнаносным калгасе «Асьнежыцкі», што на Піншчыне, адбыўся бунт. Упершыню за шмат гадоў на стыхійным сялянскім сходзе ў Асьнежыцах простыя людзі выказалі ўсё, што ім набалела. А набалела шмат: і шматлікія сацыяльна-бытавыя праблемы, і незадаволенасьць працай праўленьня калгаса. Нарэшце, і ў Асьнежыцах сяляне захацелі «людзьмі звацца».

Паступова ідзе зьмена камуністычных назваў калгасаў і саўгасаў Берасьцейшчыны. Нядаўна калгас «Шлях да камунізму» (Лунінецкі раён) быў перайменаваны калгасьнікамі ў «Лунінскі». А трошкі раней на Лунінеччыне зьнік «Маяк камунізму». Зараз ён проста называецца «Маяк». Тым няменш, пракамуністычых назваў яшчэ нямала.

У Маларыце быў адзін дзіцячы садок, у якім дзяцей вучылі размаўляць па-беларуску. Цяпер адчынілі два новыя дзіцячыя садкі, ў якіх 45 дзяцей.

У Бярэсьці з наступнага навучальнага году плянуецца з 1-га кляса пачаць навучэньне дзетак па-беларуску ў большасьці школ. Расейскамоўных застанецца столькі школаў, прыкладна які працэнт складаюць у горадзе не беларусы.

У мястэчку Ляхавічы зьявіўся свой герб. На ім адлюстравана стылізаваная ляхавіцкая фартэца, што існавала з X ст. Чырвоны колер на шчыце, на думку аўтараў, павінен адлюстроўваць адзін з колераў беларускага дзяржаўнага сьцягу, сьветла-зялёны і сьветла-аранжавы азначаюць разьмяшчэньне мястэчка на мяжы марэннага і нізіннага ландшафтаў. Зьнізу йдзе блакітная паласа ў выглядзе хвалі, што азначае разьмяшчэньне на рацэ. Прынята рашэньне, што выява герба будзе зьмешчана на будынку гарсавета, у памяшканьні, дзе праходзяць сэсіі гарсавету, а таксама пры ўезьдзе ў Ляхавічы.

У Давыд-Гарадку некалькі тydняў была зачынена царква, бо япіскап Пінскі і Лунінецкі Сьцяпан назначыў настаяцелям а.Леаніда, а прыхажане не пагадзіліся і не прынялі а.Леаніда. Вернікі патрабавалі вярнуць ім а.Міхаіла, які быў трактарыстам, але пагадзіўся прыняць духоўны сан і завочна вучыцца ў духоўнай сэмінарыі. Ён мясцовы, ветлівы, на беларускай мове гаворыць, таму людзі яго палюбілі. Адбылося галасаваньне прыхажан пад наглядам міліцыі і прадстаўнікоў гарсавету. За а.Міхала прагаласавала 1.145 прыхажан, за а.Леаніда толькі 2.

У Пінску праводзіцца збор грошаў на рамонт Сьвята-Тэадораўскага сабору, што ў мікрараёне Луг.

Жыхары вёсак Зіновічы, Кузевічы, Зелянкевічы, Ярашэвічы, Мазалі, Зельзін, Шпакі, Баяры Пружанскага раёна ўзяліся за адрамантаваньне Крыжаўздвіжанскай царквы ,якую апаганілі й амаль зруйнавалі камуністы.

У вёсцы Воса, Кобрынскім раёне была царква, якой, як сьведчылі старажылы 700 гадоў. Збудаваная яна была не зь пілаваных а зь цёсаных сякераю вялікіх бярвеньняў.

Бярвеньні былі змацаваныя драўлянымі цьвікамі. У 50-я гады царкву адчынілі, яе ста-ражытны іканастас, іконы й іншыя царкоўныя прылады забралі і кудысьці вывезьлі. Царква стала складам, пазьней пры таямнічых абставінах згарэла. Цяпер на яе мейсцы адбудоўваецца новая і хутка будзе аьсвячэньне царквы.

У Пінскай прэсе распачалося актыўнае абмеркаваньне праблемы паходжаньня беларусаў-палешчукоў. Усё пачалося на сэсіі пінскага гарадзкога савету, калі старшыня раённай Рады ТБМ выступіў з прапазыцыяй прызначыць чалавека, які-б займаўся-б у гарвыканкоме праблемамі беларусізацыі ўсіх бакоў жыцьця. Гэта сустрэла рашучае супрацьдзеяньне некаторых дэпутатаў, якія раптам успомнілі, што нягледзячы на тое, што часьцей яны размаўляюць па-расейску, тым ня меньш у сям'і яны кажуць па-свойму (не па-беларуску, на думку іх). «Гэта будзе гвалт над палешукамі, зноў ім будуць навязваць чужое»,—казалі дэпутаты. У палеміку дэпутатаў зь Пінску вымушаны быў умяшацца сп.Ніл Гілевіч. Але цяжка сказаць, чым скончыцца гэтая палеміка.

## *Віцебшчына*

На пачатку году ў Віцебску зарэгістраваная рэгіянальная філія Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына».

Будынак акруговага суда (былая сядзіба абкому камуністаў) перададзены Віцебскаму мастацкаму музею.

Распачало дзейнасьць прыватнае Агенцтва навін зь Віцебску (АНВ)

У абласным цэнтры адбыліся выстаўкі: самадзейнай мастачкі зь Белавежы Тамары Тарасевіч, дасьледчыка беларускае архітэктуры Юрыя Якімовіча.На Якімовічаўскай выстаўцы «Дойлідства Беларусі» быў прадстаўлены жывапіс ды мадэлі рэканструкцыяў.

У Паставах выйшла другая кніга альманах мясцовых паэтяў-аматараў. Першая —«Рунь»— выдадзеная летам.

Своеасаблівая споведзь лепельскай інтэлігенцыі —так можна ахарактарызаваць кнігу вершаў «Запалі імгненьні».Гэты калектыўны зборнік аўтары надрукавалі на ўласныя сродкі ў полацкай друкарні.

Зь вялікае колькасьці віцебскіх абласных газэт не засталося ніводнага поўнасьцю беларускамоўнага выданьня.

Непрыкмента й ціха зьнік з аднаго зь віцебскіх сквэраў бюст колішняга «Усесаюзнага старасты» Калініна. Уладамі гораду таксама прынята дэцызыя ліквідаваць у парках два помнікі Леніну.

Музэй этнаграфіі будзе створаны ў Воршы ў будынку былога вадзянога млыну, які быў пабудаваны напачатку нашага ст.

Адзіны ў Віцебску рыма-каталіцкі касьцёл сьв. Варвары перададзены тутэйшай каталіцкай абшчыне.

Рэшткі Дабравешчанскае царквы (XII ст) перададзены праваслаўным вернікам.

У нішто з-за інфляцыі ператварыліся складкі новапалачан, сабраныя для пабудовы праваслаўнага храму. Вернікі вырашылі збудаваць невялікую малельню, але й на яе пакуль што не хапае грошаў.

Вялікія фінансаваыя праблемы выклікалі сур'ёзны крызіс віцебскага грамадзкага транспарту. Дзясяткі трамваяў ды тралейбусаў прыпыненыя з-за працяглай нястачы запчастак і энэргетычнага голаду. Кошт тралейбуса за апошні час вырас у 50 разоў, цана білета ў 8 разоў.

З новага навучальнага году ў Полацку чакаецца адкрыцьцё нацыянальнай гімназіі зь беларускай мовай навучаньня.

*Менск*

6-7 красавіка 1992 г. У Менску адбыўся міжнародны «круглы стол» па праблеме «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім». Яго удзельнікі — вядомыя беларускія, польскія, ангельскія, італьянскія гісторыкі і філёлягі-славісты ў выніку дыскусіі прыйшлі да наступных высноваў:

Афіцыйная савецкая гісторыяграфія 30-80 гг. адмаўляла існаваньне дзяржаўнасьці Беларусі ў эпоху сярэднявечча, зьвязваючы зьяўленьне яе толькі з Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Пры гэтым з аднаго боку, адмаўляўся беларускі характар дзяржаўнасьці Полацкага й іншых княстваў на тэрыторыі Беларусі ў IX-XII стст. Вялікае княства Літоўскае падавалася як чужаземнае беларусам, як дзяржава-прыгнятальнік, з другога боку Маскоўская дзяржава прадстаўлялася як родная для беларусаў, як вызваліцельніца ад літоўскага і польскага прыгнёту.

Крыніцы сведчаць: вытокі беларускай дзяржаўнасьці адносяцца да часу ўтварэньня Полацкага і Тураўскага княстваў, а пазьней Горадзенскага, Навагарадзкага, Смаленскага. Удзельнікі круглага стала пагадзіліся, што створаная матэрыяльная і духоўная культура гэтых дзяржаваў стала падмуркам дзяржаваўтваральных працэсаў на беларускіх землях у XIII —XIV стст.

Ва ўмовах барацьбы з крыжацкай агрэсіяй пад пагрозай мангола-татарскага нашэсьця у першай палове XIII ст. у верхнім Панямоньні ўзьнікла гаспадарства з цэнтрам у Наваградку, якое стала ядром магутнай эўрапейскай дзяржавы—Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага.

Да сярэдзіны ХУст. гаспадарства афіцыйна называлася Вялікім княствам Літоўскім і Рускім, а пазьней—Вялікім княстам Літоўскім, Рускім, Жамойскім і іншых зямель. У ВКЛ тэрмін «Літва» тады адносіўся да тэрыторыі верхняга і сярэдняга Панямоньня, а пад «Русьсю» разумелася верхняе Падзьвіньне і Падняпроўе. Сучасныя заходнія этнічна-літоўскія землі (Жмудзь) канчаткова далучыліся да ВКЛ ў першай палове ХУІ ст. Ад 2-й паловы XIУ ст. да 60-х гг. ХУІ ст. у мяжу ВКЛ уваходзіла частка ўкраінскіх земляў.

Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае ўяўляла сабой фэдэрацыю земляў, у якой вакол першапачатковага ядра (уласна Літва) аб'ядноўваліся абласныя аўтаноміі . Пасьля вуніі з Каронай Польскай 1569 году ВКЛ разьвівалася ў складзе фэдэратыўнай дзяржавы Рэчы Паспалітай і было ліквідавана ў канцы ХУІІІ ст. у выніку падзелаў паміж Расейскай імпэрыяй, Прусіяй і Аўстрыяй.

У Вялікім княстве на працягу яго існаваньня разьвіліся клясычныя эўрапейскія інстытуты дзяржаўнай ўлады, заканадаўства, кадыфікаванае ў слынных статутах Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, склалася своеасаблівая форма манархіі, шляхецкая дэмакратыя, усталяваліся талерантныя адносіны паміж царквамі і канфэсыямі, створаны значныя культурныя каштоўнасьці, якія ўзбагацілі духоўную агульнаэўрапейскую і сусьветную спадчыну.



 НАША ГІСТОРЫЯ 

# Як апраналіся нашыя продкі

Людміла Дучыц

Першым адзеньнем нашых продкаў былі шкуры жывёл і расьліны. Іх перапляталі, накідваючы на плечы і бёдры. Так зьявіліся два тыпы адзеньня: плечавое і паясное. У нэаліце людзі вучыліся рабіць тканіны, выгляд якіх можна ўявіць на адбітках на гліняным посудзе. У каменным і бронзавым вяках ужо насілі шмат упрыгожваньняў— ажарэлкі з клыкоў і зубоў жывёл, ракавін, буртштыну. У эпоху бронзы ў модзе былі скураныя паясы, упрыгожаныя нашыўнымі меднымі трубачкамі, медныя і бронзавыя скроневыя кольцы ў выглядзе спіралепадобных і акулярападобных падвесак. З часоў жалезнага веку, які пачаўся на тэрыторыі Беларусі з УІІ ст да н. э., аб касьцюме дайшло да нас больш зьвестак. У некаторых пахаваньнях на металічных вырабах захаваліся кавалачкі шарсьцяных і льняных тканін. Ёсьць адбіткі тканін і на абломках гаршчкоў. Усе яны нагадваюць сучасныя хатнетканыя тканіны. Пры раскопках помнікаў раньняга жалезнага веку частыя знаходкі жалезных і бронзавых булавак, бронзавых пярсьцёнкаў і бранзалетаў, шыйных грывен, бразгаток. У паўднёвай Беларусі шмат знаходак гліняных і шкляных пацерак, сярод якіх ёсьць і чырвоныя рымскія з густога шкла. Сустракаюцца й іншыя імпартныя рэчы: рымскія ажурныя і кельтскія фібулы, скіфскія булаўкі. Насілі ў тыя часы й упрыгожваньні зь эмальлю, а таксама срэбраныя рэчы. Больш нам вядома аб касьцюме часоў Полацкага і Тураўскага княстваў. Наогул, у часы сярэднявечча чалавек удзяляў значную ўвагу касьцюму. Пытаньне аб тым, як апранацца, перапляталася з праблемамі сацыяльнага статусу і праблемамі маралі. Для вывучэньня касьцюма гэтых часоў мы маем крыніцы-летапісы, манумэнтальныя росьпісы, іконы, мініяцюры рукапісаў, у прыватнасьці Радзівілаўскі летапіс, які, як мяркуюць некаторыя дасьледчыкі, мог быць напісаны ў Полацку. Але ўсе гэтыя крыніцы знаёмяць у асноўным зь касьцюмам знаці. Уяўленьне-ж аб касьцюме вяскоўцаў і простых гараджан даюць археалягічныя раскопкі, у прыватнасьці раскопкі курганоў. Курганны матэрыял дазваляе ўявіць комплексы касьцюма і таму зьяўляецца асабліва каштоўнай крыніцай. Жаночы касьцюм наогул у старажытнасьці быў выразным этнаграфічным індыкатарам.

У час археалягічных раскопак знаходзяць ня толькі захаваўшыяся ўпрыгожваньні , але трапляюцца рэшткі адзеньня і галаўных убораў у выглядзе кавалачкаў шарсьцяных, ільняных, канапляных і шаўковых тканін, кавалачкаў скуры ад паясоў, галаўных убораў і сумачак. У курганах рэштак скуранога абутку амаль няма, што зьвязана зь беларускім звычаем хаваць нябожчыка ў шкарпэтках ці абмотках. У культурных пластах гарадоў скураны абутак вельмі частая знаходка. Вядомыя таксама знаходкі вязаных шкарпэтак і рукавіц. Ёсьць і вышываныя рэчы.

Асноўнымі часткамі касьцюма ў тыя часы былі ільняная кашуля, паяснoе адзеньне (спадніца ў жанчын і порты ў мужчын), сьвіта, кажух і наплечнае пакрывала. Жанчыны насілі і фартухі. Прасачыць па курганах пакрой адзеньня сельскага насельніцтва цяжка, але па рэштках тканіны можна меркаваць, што адзеньне шылася з хатнетканых тканін, і толькі больш заможныя людзі маглі ўпрыгожыць свой касьцюм шаўковай тканінай або залататканай тальмай. Звычайна, шоўк ішоў на каўнер, манжэты, галаўныя ўборы. Часта адзеньне фарбавалася, асабліва паяснoе. Для афарбоўкі выкарыстоўвалі кару і почкі дрэваў, палявыя кветкі, корні расьлін, травы, ягады.

На кашулях вышываўся геаметрычны арнамэнт чырвонымі і чорнымі ніткамі. Напрыклад, добра захаваліся рукавы ад такой кашулі ў кургане рубяжа XI—XII стст. каля в. Харлапава на суседняй Смаленшчыне, дзе таксама жылі крывічы. Арнамэнт уяўляў сабой спалучэньні ромбікаў, чатырохкутнікаў і кутоў, якія рабілі складаныя крыжы і ромбы. Часта адзеньне расшывалася бісерам, бронзавымі спіральнымі пранізкамі, малюсенькімі бляшачкамі. Значную ролю ў адзеньні, як жаночым, так і мужчынскім, адыгрываў пояс: скураны, тканы, пляцёны, сшыты з тканіны. Многія паясы насілі з пражкамі, да паясоў падвешваліся розныя амулеты (бразготкі, конікі, ключыкі) або скураныя сумачкі. У значнай колькасьці курганных пахаваньняў знойдзены на поясе ножыкі, бываюць у скураных чахлах.

Асаблівая ўвага ў старажытнасьці ўдзялялася галаўным уборам. Гэта самы важны этнавызначальны элемент касьцюма. Да галаўных убораў (вяночкаў у дзяўчат і чапцоў у замужніх жанчын) прымацоўваліся або прышываліся мэталічныя скроневыя кольцы, менавіта якія і служылі прыкметай этнасу. Так, крывічанкі насілі дротавыя бранзалетападобныя скронёвыя кольцы, радзімічанкі—сяміпрамянёвыя, дрыгавічанкі—дротавыя пярсьцёнкападобныя з напускнымі зярненымі пацеркамі .





Галаўныя дзявочыя ўборы XI-XII ст.
Малюнкі Вольгі Авакумавай

У Панямоньні былі распаўсюджаны скроневыя кольцы з сьпіралепадобнымі завіткамі. Носьбіты культуры каменных магіл у Панямоньні насілі скроневыя кольцы з шматлікімі гладкімі пацеркамі. І толькі гладкія дротавыя пярсьцёнкападобныя скроневыя кольцы ня мелі ў сабе этнічнай прыналежнасьці, бо былі распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Беларусі і ва ўсёй Усходняй Эўропе.



Галаўныя дзявочыя ўборы XI-XII ст.
Малюнкі Вольгі Аввакумавай

Дзявочыя вяночкі рабіліся зь бяросты ці лубу й абцягваліся тканінай ці скурай. Сустракаюцца і вяночкі толькі са скуры або з тканіны. Бывала, што замест вяночка насілася золататканая бізантыйская тасьма. Каля в.Аўсянікі (Чашніцкі раён Віцебскай вобласці) знойдзены вяночак з драўлянага абадка, які быў абшыты скурай і тканінай ды ўнізаны пацеркамі на дроце. Вяночак дапаўняўся бранзалетападобнымі кольцамі. Паблізу в.Пуцілкавічы на Ушаччыне (Віцебская вобласьць) знойдзены вяночак з шаўковай тканіны, на якую былі нашыты пазалочаныя бляшачкі. Венчык з шыцьцём срэбранай каніцельлю быў у кургане каля в.Гарадзілаўка паблізу Наваградка. У Беларусі, асабліва на Віцебшчыне, часта насіліся і так званыя вайнагі —тыпова балцкія вяночкі з бронзавых спіральных пранізак у спалучэньні з бронзавымі пласьцінкамі. На патыліцы да такіх вяночкаў прымацоўваліся бронзавыя ланцужкі, якія заканчваліся званочкамі або трапецыяпадобнымі падвескамі. Сустракаюцца і пласьцінчатыя бронзавыя ці срэбраныя вяночкі. На канцах такой мэталічнай ленты рабіліся адтуліны для шнурка. Напрыклад, такія вяночкі знойдзены каля Наваградка, Лунінца і каля в.Відагошч на Лагойшчыне. Уборамі замужніх жанчын лічыліся чапцы або шапачкі. Аснова іх рабілася з лубу, скуры ці лямцу. Галаўны ўбор такога тыпу добра захаваўся ў адным з курганоў каля в.Юдзічы на Пасожжы. На чэрапе знойдзены луб, пакрыты тонкай палатнянай тканінай. На ілбе тканіна была ўпрыгожана дробнымі шклянымі пацеркамі жоўтага колеру і прадзюраўленымі вішнёвымі костачкамі. На правай скроні да чапца былі прымацаваны тры сяміпрамянёвыя і чатыры пярсьценкападобныя скроневыя кольцы. Каля левай скроні кольцы захаваліся разам з скураной стуж-

кай, да якой яны прымацоўваліся. Стужка была складзена ўдвая, чатыры кальцы былі праткнуты ў яе адно над другім, а ніжняе кальцо падвешанае ў месцы згібу стужак.

Паверх венчыкаў і чапцоў насілася намітка, павой (шаль) або хустка. Такія пакрывалы ўпрыгожваліся вышыўкай, а бывала абшываліся (асабліва ў крывічанак) мэталічнымі бляшкамі. Мужчынскімі галаўнымі ўборамі ў пачатку II тыс. былі лямцавыя шапачкі, якія па краю ўпрыгожваліся мэталічнымі бляшачкамі або спіральнымі пранізкамі.

У тыя часы насілася вельмі шмат упрыгожваньняў. Акрамя скроневых калец гэта былі каралі пацерак (шкляных, сердалікавых, крышталыных, бурштыновых, мэталічных, гліняных і інш.), часта ў спалучэньні з бразготкамі або іншымі падвескамі, шыйныя грыўны, разнастайныя фібулы (зашпількі для адзеньня).

Упрыгожваньнямі рук былі бранзалеты і пярсьцёнкі. Бранзалеты адначасна насіліся па 1,2, 3, або і 4 , а пярсьцёнкі ад I да 10. Асабліва частымі знаходкамі зьяўляюцца шкляныя пацеркі, у тым ліку золаташкляныя і срэбрашкляныя.

Шырока ўжываліся сінія і жоўтыя пацеркі. У кампаноўцы караляў прытрымліваліся прынцыпу сімэтрыі. Каля Чарневіч на Глыбоччыне караль быў спераду ў 9 радоў з жоўтых бісерных пацерак, а ззаду сыходзіўся ў адзін рад. У адным з радзімміцкіх круганоў вядома сем нізак пацерак, сярод якіх былі нават амяціставыя і з горнага крышталю.

Мужчыны, асабліва крывічы, таксама насілі шмат упрыгожваньняў. Гэта фібулы, спражкі, бранзалеты, пярсьцёнкі. Мужчынскае адзеньне таксама абшывалася бляшачкамі і сьпіральнымі пранізкамі.



Рэканструкцыя касьцюма мужчыны. XI—XII ст.Касьцюм, характэрны для ўсей Беларусі. Мал. В.Авакумавай

Аб касьцюме гараджан атрымаць ўяўленьне цяжэй,чым аб касьцюме вяскоўцаў, таму што не так шмат маем зьвестак аб гарадзкіх некропалях. Знаходкі культурных пластоў гарадоў разрозненыя і не ўяўляюць сабой комплексаў, але некаторыя тыпова гарадзкія рысы гарадзкога касьцюма прыкметныя. Як вядома, гарадзкая культура зь першых-жа крокаў свайго існаваньня разрывала рамкі пляменнай замкнёнасьці. Гарады былі цесна зьвязаны гандлёвымі сувязямі паміж сабой і ўспрымалі ўплывы як Захаду, так і Ўсходу. Даволі цеснымі былі сувязі зь Кіевам. У гарады сьцякалася насельніцтва розных зямель. Яно напачатку трымалася свайго пляменнага касьцюма, але зь цягам часу склаўся і свой адметны гарадзкі касьцюм.

Характэрнай рысай гарадзкога жаночага касьцюма сталі сукенкі , якія часта насіліся па дзьве (ніжняя доўгая і верхняя кароткая з шырокімі рукавамі). Тыпова гарадзкімі ўпрыгожваньнямі сталі шкляныя бранзалеты. Ёсьць падставы гаварыць аб вытворчасьці такіх бранзалетаў у Полацку і Друцку, але значная частка бранзалетаў прывозілася зь Кіева. Найбольш распаўсюджанымі колерамі бранзалетаў былі сіні, зялёны,бірузовы, карычневы, жоўты, фіялетавы, чорны. Па форме бранзалеты былі літыя, гладкія, кручаныя й інш.

Мода на колер і форму бранзалетаў часта мянялася. Напрыклад, У Менску у канцы XI-пачатку XII стст. у модзе былі чорныя, сінія і блакітныя бранзалеты, а пасьля іх зьмянілі зялёныя і карычневыя. Гарадзкімі ўпрыгожваньнямі лічацца і скроневыя ўпрыгожваньні — колты. Яны падвешваліся на ланцужках або стужках да галаўнога ўбору. Колты ўнутры былі полымі і туды ўкладаліся тканіны, змочаныя пахучымі вадкасьцямі. У гарадах пачала распаўсюджвацца мода на завушніцы. Першыя завушніцы рабіліся ў выглядзе пытальніка, на канец якога надзявалася пацерка. Для замацаваньня пацеркі сьцержань абвіваўся дротам, а кончык завязваўся пятлёй.

Больш разнастайнымі ў гарадах былі бранзалеты і пярсьцёнкі. Толькі ў гарадах вядомы знаходкі каменных абразкоў і каменных крыжыкаў, якія часта рабіліся ў срэбранай або залатой аправе. Асабліва шмат у гарадзкіх слаях рэшткаў скуранога абутку. Гэта чаравікі, туфлі, паўбоцікі,боты. Абутак упрыгожваўся вышыўкай шарсьцянымі ці шаўковымі ніткамі. Узор уключаў розныя элементы — пляценкі, завіткі, кругі ,прошвы, трохкутнікі і ромбы.

Асаблівую цікавасьць ўяўляе пахаваньне знатнай мінчанкі, знойдзенае ў 1949 годзе пры раскопках храма XII ст. Гэта была дзяўчынка 14-17 гадоў.На нябожчыцы захаваліся рэшткі шарсьцяной тканіны ад верхняга адзеньня і такі-ж пояс разам са спражкай, абцягнутай гэтай-жа тканінай. Вакол шыі быў стаячы каўнер на жосткай аснове з гузікамі па разрэзу. Вакол галавы былі ўкладзены дзьве касы. На галаве было два вяночкі—аднін зь кветак птармікі, а другі з палатна. На нагах былі апрануты мяккія скураныя чаравікі з адваротам і прадзёркай, упрыгожаныя вышыўкай з эсападобным узорам.

Некалькі пахаваньяў знатных жыхароў Гародні раскапана таксама ў Ніжняй царкве. Напрыклад, у мужчынскім пахаваньні пад патыліцай знойдзены фрагмэнты плотнай залататканай арнамэнтаванай павязкі, якая была расшыта пэрламі і пазалочаным дробным бісэрам. Каля вуха знойдзены абломкі ажурных філіграннных завушніц, а на ключыцах мэталічныя бляшачкі. На пальцы левай рукі быў залаты

пярсьцёнак зь неграненым чырвоным каменем, які па баках трымалі ільвіныя галовы.

Уяўленьне аб касьцюме знаці даюць таксама скарбы і каштоўныя рэчы, знойдзеныя ў гарадзкіх слаях.

Гэта былі ўпрыгожваньні з срэбра і золата — плеценыя бранзалеты і шыйныя грыўны, пярсьцёнкі, гузікі, шырокія бранзалеты-наручы.

Тыповымі ўпрыгожваньнямі княжацка-баярскага асяродзьдзя лічыліся скроневыя ўпрыгожваньні—расны. Яны складаліся з галоўкі, да якой прымацоўваліся ланцужкі, чаргуючыся і заканчваючыся бляшачкамі. Расны, як і скроневыя кольцы прымацоўваліся да галаўнога ўбору і спускаліся да плячэй з абодвух бакоў твару. Дэталі ад раснаў знойдзены ў Полацку, Наваградку. У Менску каля дзіцячага пахаваньня ў храме знойдзены залаты бранзалет вагой 75, 472 грамы. Ён сплецены з драцінак і заканчваецца двума стылізаванымі зьмяінымі галоўкамі.

Знаходкі залатых пярсьцёнкаў, акрамя згаданага ў Горадні, ёсьць у Полацку, Берасьці, Віцебску, Наваградку. Полацкі пярсьцёнак быў з устаўкай з гранату. З рэчавых скарбаў найбольш шматлікі Вішчынскі скарб (Рагачоўскі раён Гомельскай вобласьці), знойдзены ў 1979 годзе. Тут былі два колты з двухбаковымі выявамі птушак, выкананых у тэхніцы перагародчатай эмалі, зоркавы шасьціканцовы колт і колт з ажурнай каймой і выявамі двух птушак і крына, дзьве расны, кручаны з трох жгутоў бранзалет і двустворкавы пласьцінчаты бранзалет з гравіраванымі выявамі птушак, чатыры крынападобныя падвескі і тры сярэбраныя пацеркі, два ланцужкі з паўцыліндрыкаў. Усе вырабы з высокаякаснага срэбра. Два колты, крыжападобная падвеска ,пацеркі і пласьцінчаты бранзалет пазалочаны. Рэчы маюць аналёгіі ў скарбах, зарытых на Русі ў часы мангола-татарскага нашэсьця і датуюцца другой паловай XII—першай трэцьцю XIII стст.




Галаўныя дзявочыя ўборы XI-XII ст. Малюнкі Вольгі Авакумавай

# Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў

Паўла Урбан

Энэй Сільвій Пікальміні, італьянскі гуманіст, нарадзіўся ў 1405 г.З 1458 да 1464г. гэта Папа Пій ІІ. Зь Геранімам з Прагі пазнаёміўся падчас Базэльскага царкоўнага сабору, які зь перапынкамі працягваў сваю працу з 1432 да 1439 г. Што тычылася Літвы, Ян Геранім з Прагі ня мог быць адзіным інфарматарам для італьянскага гуманіста. Япіскап, а пазьней і каардынал Энэй Сільвій быў знаёмы з каардыналам Ізідорам, былым нашым праваслаўным, а затым вуніяцкім мітрапалітам, які ад імя ВКЛ ў 1439 годзе падпісаў акты ведамай Фларэнцкай царкоўнай вуніі. Калі ў 1454 г. пачалася чарговая вайна паміж Польшчай і крыжакамі Прусіі Энэй Сільвій у якасьці легета Ватыкану браў удзел у спробах замірыць праціўнікаў. А ў 1457 годзе ён стаўся яшчэ япіскапам прускай зямлі Варміі. Так што польскі гісторык Ян Фіялэк ня меў слушнасьці, мяркуючы, нібы пра Літву й ВКЛ Энэй Сільвій Пікальміні мог пачуць толькі здалёку. Дарэчы, будучы ўжо кіраўнікам Ватыкану ёй мог мець і напэўна меў непасрэдныя кантакты зь Вільняй. Дык вось што пісаў ён пра Літву. Цытуем у нашым перакладзе з лацінскага тэксту: «Літва з сваімі шырокімі прасторамі мяжуецца з Польшчай... Мова народу ёсьць славянская. Вельмі разьлеглая гэтая мова і падзеленая на розныя разгаліненьні. Сярод славянаў адны належаць да Рымскае царквы, як Далматы, Харваты, Карнійцы і Палякі. Іншыя трымаюцца памылак Грэкаў, як Баўгары , Русіны імнога зь Ліцьвіноў. Зноў-жа іншыя выдумалі свае ўласныя ерасі, як Чэхі, Маравы і Басьнякі... Некаторыя дасюль яшчэ жывуць у сьлепаце паганскай, напрыклад, шматлікая зь Ліцьвінаў пакланяюцца ідалам. У нашым часе вялікая частка іх прымкнула да вучэньня Хрыста, калі Ўладыслаў (Ягайла), які паходзіў з гэтага народу, атрымаў карону Польшчы. [36]

Пра Літву, як славянскую краіну, пісалі таксама Гартман Шэдэль у «Сусьветнай хроніцы» [37], Ян Коклес ў «Апісаньні Германіі» [38] і Ян Багемскі ў працы «Звычаі ўсіх народаў»[39]. Мову ліцьвіноў яны аднолькава залічалі да сям'і славянскіх моваў. Але гэтыя аўтары, уводзячы ў свае трактаты новыя моманты, усё-такі пераклікаліся з Энэем Сільвіем Пікальміні. Таму не будзем тут паўтарацца.

Дарэчы, грунтуючыся на архіўных матэрыялах, нямецкаі гісторык ХУІІ ст. Хрыстаф Гарткнох даказваў, што мова старажытных прусаў была славянізаваная, зьбліжалася з мовамі ліцьвіноў, палякаў і рускіх [40].

Адносна аўтараў хронікаў ХУІ ст. мы абмяжуемся да агульных заўвагаў. Бо, напрыклад, польскія храністы Мацей зь Мехава [41] і Марцін Кромэр[42] свае канцэпцыі чэрпалі ў асноўным з працаў Яна Длугаша. Ведамы Мацей Стрыйкоўскі, які сваю «Хроніку польскую, літоўскую ,жмудзкую і ўсёй Русі» апублікаваў у 1582 г., у Кёнігсбэргу [43], увогуле быў фантазёрам і кампілятарам. Усьлед за Длугашам ён паходжаньне ліцьвіноў і жамойцаў выводзіў ад італьянцаў, называючы міфічных князёў накшталт Палемона ці Лібона.[44]

(Працяг. Пачатак у № 1(11),2 (12) 1992)

Гэтак і хочацца прыгадаць «Аналы» крылівага ў свой час польскага палітыка і публіцыста Станіслава Ажэхоўскага, якія ён апублікаваў у 1554 годзе і прысьвяціў іх Жыгімонту Аўгусту. Фантастычнасьць канцэпцыі «Аналаў» палягала ў тым, што паходжаньне славянаў Ажэхоўскі выводзіў ад ваяўнічых македонцаў часоў Аляксандра Македонскага. Даказваў, што палякі, хоць яны і былі «славянскай нацыяй», належылі да «народу грэкаў». Пісаў, нарэшце, што ў славянскім сьвеце Польшча была «пупам і цьветам ўсяго славянства» [45].

Якраз падобную вартасьць мелі таксама канцэпцыі Мацея Стрыйкоўскага, адносна «рымлянскага» ці іншага паходжаньня ліцьвіноў і жамойцаў. Дарэчы, у адных мясьцінах сваёй хронікі Стрыйкоўскі радніў ліцьвіноў з жамойцамі, а ў іншых мясьцінах адрозьніваў іх як асобныя народы. Так, паведамляючы, да якога веравызнаньня («грэцкага» ці «рымскага») належалі паасобныя славянскія народы, вось гэтых ліцьвіноў Мацей Стрыйкоўскі проста залічаў якраз да сям'і славянскіх народаў [46].

Міхалён Літвін (ён-жа Міхал Тышкевіч), які ганарыўся сваёй «Харобрай Літвой» і свае «гістарычныя фрагменты» напісаў дзесьці неўзабаве пасьля 1555 г., вельмі ня кідаўся ў фантастычныя разважаньні. Быў больш канкрэтным і проста пісаў, што маўляў: «Мы, Ліцьніны, паходзім ад італьянцаў і ў нашых жылах цячэ італьянская кроў. Маем ці мелі рымлянскія звычаі і абрады, маем уласную, напалову лацінскую, мову, што адрозьніваецца ад русінскай мовы» [47].

Паводля М. Літвіна, яшчэ за часоў імпэратара Гая Юлія Цэзара Актавіяна (Аўгуста), рымлянскія каляністы маглі апынуцца ў Жамойці, калі рымлянская флатылія, якая накіроўвалася ў Брытанію, была адкінутая штормам у Балтыйскае мора [48]

Сымон Будны, таксама «ліцьвін», у сваім «Катэхізісе», у прадмове-прысьвячэньні кнігі князям Радзівілам пісаў:*«К тому тежь и для того,абы ся ваши княжацские милости не только в чужоземских языцех кохали, але бы ся тежь ваши княжацские милости и того здавна славного языка словенъского розмиловати и оным ся бавити рачили. Слушная бо речь ест, абы ваши княжацские милости того народу язык миловати рачили, в котором давъные предъки и их княжацские милости панове отци ваших княжецских милости славне преднейшие преложеньства несуть»* [49]

Можна прыгадаць хроніку Тамаша Гіёрна, бо адным зь першых гэты аўтар слушна крытыкаваў прыгадваныя канцэпцыя наконт «італьянскага» або «рымлянскага» паходжаньня ліцьвіноў. З паходжаньня швед Тамаш Гіёрн быў урадоўцам у той частцы Лівоніі, якая знаходзілася пад уладай Швэцыі. Сваю хроніку ён напісаў дзесьці пасьля 1649 году.

Адносна канцэпцыяў пра «рымскае-італьянскае» паходжаньне ліцьвіноў, Тамаш Гіёрн саркастычна пісаў, што несур'ёзна высноўваць паходжаньне народаў ці плямёнаў, грунтуючыся на некалькіх словах-тэрмінах, гучаньне або сэнс якіх штосьці намякаюць на мову лацінскую.

Што тычылася «рымскіх звычаяў» і абрадаў (пералічыў іх таксама М.Літвін) дык, адзначыў Тамаш Гіёрн, гэткія, напрыклад, паганскія звычаі й абрады, як спальваньне трупаў памерлых, ушанаваньне сьвятасьці лясоў і зьмеяў, варажба і прадказаньні (прыназіральньні за палётамі птушак), усё гэта было, для прыкладу, ня толькі ў кельтаў, але таксама ў швэдаў і готаў [50].

Спасылаючыся на трактат Яна Ласіцкага, які апісаў паганскіх багоў Жмудзі, Тамаш Гіёрн зацытаваў вытрымку, у якой

апавядалася пра іншую вэрсію «рымлянскага» паходжаньня жамойцаў, паводля якой жамойцы паходзілі ад тых рымлянаў або італікаў, якія за часоў рымскага імпэратара Нэрона за нейкую правіну былі сасланыя на пустынны востраў Гіярас у Эгейскім моры. Імпэратар рыхтаваўся да ваеннага паходу, а таму меўся уключыць у свае легіёны і гэтых выгнанцаў. Тры разы ён пасылаў да іх сваіх эмісараў і караблі. Выгнанцы, нарэшце, згадзіліся ўзысьці на гэтыя караблі, але тут-жа перабілі Нэронавых эмісараў, захапілі караблі і паплылі ў адваротным кірунку — у Чорнае мора.

Адсюль, зь берагоў Чорнага мора і пачалася эпапея вандроўкі тых італікаў-жамойцаў на поўнач да берагоў Балтыйскага мора. Паводля паданьня, «італікі-выгнанцы» праходзілі праз дрымучыя лясы і дасягнулі ўзьбярэжжа Балтыйскага мора, якое «русіны называюць Баражскім»[51].

Польскі храніст Станіслаў Сарніцкі, які свае «Аналы» апублікаваў у 1587 г. прыгадаў яшчэ трэцюю вэрсію, што тычылася ліцьвінаў, паводля якой італікі-каляністы, якія жылі ў вусьці Дунаю з сваім правадыром Лібонам прйшлі ў Літву праз Валахію. [52]

Аляксандр Гваніні, грунтуючыся на канцэпцыях Яна Длугаша і М. Мяхоўскага, на трактатах нямецкага аўтара Эразма Стэлы[53] «рымлянскае паходжаньне» прыпісваў толькі шляхце і магнатам ВКЛ. Продкамі звычайных ліцьвіноў, простага народу ,на яго думку, былі готы[54]. Прыгаданы нямецкі аўтар Эразм Стэла, старажытных прусаў атаясамліваў з гэтымі готамі, паходжаньне ліцьвіноў высноўваў ад іранскага племяні аланаў, якіх ён аднолькава радніў з готамі. [55]. Што-ж тычыцца Аляксандра Гваніні, які сваю «Хроніку Эўрапейскай Сармацыі» напісаў на лацінскай мове і выдаў яе ў 1578 г., дык ён сьцьвярджаў яшчэ і гэтую тагачасную рэчаіснасьць: «... Ліцьвіны, Русіны і Мазуры зьблізіліся з Палякамі... Па-за гэтым, аднак, усе яны хоць разьдзяліліся сярод іншых народаў, гутараць, асабліва ў вёсках, на сваёй роднай, хай сабе адметнай, славянскай мове. [56]Італьянец з паходжаньня, Аляксандр Гваніні ў часе напісаньня сваей хронікі ў якасьці чужаземнага наёмніка ўзначальваў гарнізон у Віцебску.

Вельмі цяжка зразумець канцэпцыю наконт этнічнага паходжаньня ліцьвіноў, якую паспрабаваў абгрунтаваць у сваёй хроніцы швед Тамаш Гіёры. У першай кнізе ён пісаў, што латышскія плямёны латгалы, земгалы, куршы, старжытныя прусы, а таксама ліцьвіны, жамойцы і яцьвягі паходзілі ад аднаго караня. Яны былі адным народам і мелі адну мову [57]. Але ў гэтым выпадку доказам для Тамаша Гіёрна былі адпаведныя выказваньні Мацея Мяхоўскага, Марціна Крэмэра, Аляксандра Гваніна і Міхалёна Літвіна, вытрымкі з працаў якіх ён цытаваў. Падкрэслім, што сваю канцэпцыю пра этнічную роднасьць латышоў і ліцьвіноў з тымі люцічамі Тамаш Гіёры не разьвіў і пакінуў яе адкрытай.

Якраз Філіп Меланхтан [58] продкаў ліцьвіноў, латышоў і прусаў пасяляў на тэрыторыі колішняй Дакіі або пазьнейшых Валахіі і Малдавіі. Пасяляў паміж рэкамі Днестрам і Дунаем там, дзе побач зь імі жылі валахі і сарматы. Але гэта таксама чыстыя домыслы. Таму важней будзе адзначыць , што Літву, ВКЛ, Філіп Меланхтан залічваў да славянскіх краінаў. У першай кнізе сваёй хронікі ён пісаў пра венедаў і тлумачыў, што пад венедамі разумеў ўсе народы, якія карысталіся славянскай мовай. Канкрэтна Філіп Меланхтан пісаў, што венедамі ён называе ўсе тыя народы, якія «гутараць на польскай мове». Але тут-жа ўдакладніваў, **што венеды мелі**

агульную для сябе мову, якая магла адрозьнівацца асабліваьсцямі ў вымаўленьні ў залежнасьці ад мясьцінаў, дзе яны расьсяліліся. У якасьці прыкладу ,у якіх краінах жылі венеды, Філіп Меланхтан канкрэтна вылучыў якраз Русь, Літву і Польшчу [59].

Можна яшчэ дадаць, што ў чацьвёртай кнізе сваёй хронікі Філіп Меланхтан рабіў розьніцу паміж ліцьвінамі і жамойцамі. Этнічнае паходжаньне жамойцаў, якіх памяшчаў побач з куршамі, судавамі і ліцьвінамі ён высноўваў ад лірыйска-фракійскага племя готаў [60].

Цяпер выпадае зноў вярнуцца ад Яна Длугаша, якога можна назваць бацькам тэорыі «рымлянскага» паходжаньня ліцьвіноў і жамойцаў. Але ён ня быў арыгінальным, бо карыстаўся «Хронікай Прускай зямлі» Пётры з Дузбургу і асновы для сваёй тэорыі мог падчэрпнуць якраз зь яе.

Пётр з Дузбургу сваю хроніку пісаў за *часоў вялікага князя Гедыміна і закончыў* яе ў 1326 г. Ён апісаў паасобныя землі Прусіі, паганскіх багоў старажытных прусаў. Прыгадаў таксама культ паганскага сьвятара Крыва-Крывэйта й абрадавы цэнтр гэтага культу на імя Ромаў. Паводля крыжацкага храніста, усё гэта было запазычана ад Рыму і Пётра з Дузбургу яшчэ пісаў,што культ і ўлада прускага «папы Крывэ» распаўсюджваліся ня толькі ў Прусіі, але яшчэ сярод Ліцьвіноў і народаў Лівоніі. [61]

Інакш кажучы, падмурак для канцэпцыі пра «рымлянскае» паходжаньне старажытных прусаў, ліцьвіноў і латышоў быў закладзены ўжо Петрам з Дузбургу.

Да праблемы паходжаньня ліцьвіноў і жамойцаў Ян Длугаш вярнуўся ў дзесятай кнізе сваіх хронікаў, прысьвяціўшы гэтай праблеме два вялікія разьдзелы. Длугаш адзначыў,што пра гэтае іхняе паходжаньне мала што ведама, бо ніводзін аўтар не пакінуў зьвестак, калі й якім шляхам ліцьвіны і жамойцы прыйшлі ў паўночныя мясьціны. Аднак, зыходзячы з таго, быццам мова «літоўскага і жмудзкага народу» *захавала асаблівасьці лацінскай мовы, Ян* Длугаш выказаў упэўненае дапушчэньне што ліцьвіны і жамойцы паходзілі ад рымлянаў. Паводля Длугаша, пакінулі яны Італію за часоў рымскага імпэратара Аўгуста Актавіяна ( у 714 г. Пасьля заснаваньня Рыму) і на новым месцы пасяленьня назваліся «Літаламі», краіна таксама пачала называцца «Літалія». Зьмены на «Літву» і «Літвіноў» адбыліся пад уплывам суседніх народаў—палякаў і русінаў. Тыя італьянскія прышэльцы мелі князя на імя Вілей, скуль і назвалася Вільня. Жамойць атрымала сваю назву ад «зямлі, якая ляжала ніжэй». Былая лацінская мова гэтых прышэльцаеў пад уплывам цесых кантактаў з суседнімі народамі «набыла асаблівасьці *славянскай мовы»* [62]

Гэтая апошняя канстатацыя Яна Длугаша тычылася, напэўна ліцьвіў. Мы ўжо гаварылі, што апісваючы эпізоды хрышчэньня ліцьвіноў і хрышчэньня жамойцаў, Длугаш сьцярджаў: пры хрышчэньні ліцьвіноў польскія сьвятары ня мелі патрэбы ў перакладчыках, пры хрышчэньні жамойцаў тыяж польскія сьвятары змушаныя былі карыстацца палсугамі гэтых перакладчыкаў.

Дарэчы, Ян Длугаш пакінуў яшчэ гэткую неспадзеўку. У 11 кнізе сваіх хронікаў ён прыгадаў першага каталіцкага япіскапа для Жмудзі пісаў: «На першага біскупа кафэдры ў Медніках быў высьвечаны Мацей, з паходжаньня Немец, які, аднак, нарадзіўся у Вільні, ведаў мовы літоўскую, жмудзкую [62]

Удакладнім,што ў афіцыйным акце заснаваньня Медніцкай каталіцкай япархіі, у акце самога вялікага князя Вітаўта, япіскап Мацей характарызаваўся як чыстакроўны

ліцьвін: «...ad quem venerabilem virum magistrum Mathiam origine Lytwanum, praepositum Wilnensem ydoneum et discretum postulamus...»[63] Такім чынам, Ян Длугаш змушаны быў прызнаць, што існавалі дзьве мовы літоўская і жамойцкая. Хоць адасабленьне мовы ліцьвіноў ён бачыў як вынік моўнай асыміляцыі.

Нам могуць запярэчыць, што ёсьць яшчэ афіцыйны дакумэнт: пасланьне вялікага князя Вітаўта імпэратару Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі Жыгімонту Люксембургскаму, датаване 11 сакавіком 1420 г. Зь ягонага кантэксту вынікае, што ліцьвіны і жамойцы радніліся этнічна і моўна. «Вы выказаліся і прынялі пастанову наконт зямлі Жамойцаў, якая ёсьць нашай спадчынай і ўласнасьцю як законная спадчына ад прадзедаў і дзядоў нашых, якою валодаем і цяпер, ды якая ёсьць і заўсёды была адзінай зь зямлёю Літвы, бо-ж адна тая самая гаворка і тыя самыя людзі. Але дзеля таго, што зямля Жамойцаў ёсьць зямля ніжэйшая ў параўнаньні зь зямлёю Літвы, дык называецца Жамойціяй, што ў літоўскай мове перакладаецца як зямля ніжэйшая. Жамойцы, па праўдзе, Літву называюць Аўкштотай, што значыць зямля вышэйшая ў параўнаньні зь зямлёю Жамойцаў. Жамойцы аднак, з даўнейшых часоў называюць сябе ліцьвінамі і ніколі жамойцамі. З прычыны гэткай ідэнтычнасьці ў нашым тытуле мы пішамся з Жамойці, якая абсалютна належыць ад аднаго: зямля адна і людзі адны»[70]

(Працяг у наступным нумары).

Бібліяграфія

36. Aeneas Sylvius. De Lituania regione. In SRP. t.4, Leipzig, 1870, pp.237-238.

37. Hartmann Schedel. Das Buch der Cronicken und Geschichten (Nachdryck der Ausgabe 1493, Nurnberg). Munchen-Allach, 1965, s. 278-278a.

38 Johannes Cochlaeus. Brevis Germanie descriptio (1512). In: Quellen (der Neuzeit). Bd. 1, Darmstadt, 1960, pp. 120-123.

39. Joannis Boemi Omnium Gentium Mores. Antverpiae, 1538, pp.80v-81v.

40. Christoph Hartknoch, Alt-und Neues Preussen oder preussischen historien, Fr.-Leipzig, 1684, s.3. 9-10, 35, 86.

41. Matthias de Miechowia, Descriptio Sarmatiarum Asianae et Europianae. Kr., 1521.

42. Martinus Cromerus, De origine et rebus gestis Polonorum. Basileae. 1555.

43. M Stryikowski. Kronika Polska, Litewska, Zmodzka i Rusi, t.1-2, W., 1844.

44. Ibidem, t1, pp.21, 26-28, 33-38, 43-50, 65

45. Stanislai Orichovi Annales Polonici ab excessu Sigismundi. In: Joannis Dlugossi Historiae Polonicae, Lipsiae, 1712, col. 1477-1480.

46. M.Stryjkowski. opus. cit. t.1, p.107-108, 111.

47. Michalonis Lituani. De moribus Tartarorum. Lituanorum et Moscorum. Vilnius, 1966, p. 23,

48. Idedem. p. 24

49. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Ск. А.Коршунаў Мн., 1959, с. 191. Прадмовы і пасьяслоўі паслядоўнікаў Скарыны. Укл., У.Г.Кароткі, Мн., Навука і тэхніка, 1991, б.25.

50 Thome Hiarn, Ehst-Lyf- und Letlandische Geschichte, In: MLA, Bd. 1, Riga, Dorpat und Leipzig, 1835, s. 21.

51. Idibem, p. 20,

52. St. Sarnici. Annales sive de origine et rebus gestis Polonorum et Litvanorum. In: Joannis Dlugossi Historiae Polonicae. Lip., 1712, col. 1083.

53. Erasmi Stellae de Borussiae Antiquitatibus Libri duo, In: SRP, t.4, Leip., 1870, pp. 275-298.

54. Kronika Sarmacyi Europeskiey ALexandra Gwagnina., In: Zbior Dziejopisow Polskich. t.4, Warsazawa, 1768, pp. 222-223.

55. Erasmis Stella. Opus cit., pp. 285-287, 294-295.

56. Alexander Gwagnini, Opus cit., p. 11.

57. Chronica Carionis gantz new geschrieben vom Herrn Philippo Melanthon, Verdeutscht durch M. Eusebium Menium. Bd. 1-4, Fran. am Meyn, 1566.

58. Ibidem Bd. 1, s. 16a.

59. Ibidem Bd 4, s. 15a.

60. Petri de Dusburg Chronica terre Prussie. In: Quellen ( Mittelalters), Bd. XXV, Darmstadt, 1984, pp. 102-107.

61 Jan Dlugosz. Opus cit., ks 10 Warzawa. 1981, pp. 215-221.

62. Ibidem ks. 11, W. 1985, p.86.

63. Codex Ecclesiae Vilnensis nr. 70, p, 737.

70. Codex epistolaris Vitoldi, *DCCCCLXI. pp.466-469

# Эмблема на шчыце герба «Пагоня»

Міхась Белямук

Часам даводзіцца чуць або чытаць: на купале праваслаўны крыж. Зададзім сабе пытаньне: чаму крыж праваслаўны? Толькі таму што праваслаўныя крыжы васьміканцовыя? А які-ж крыж быў на купалах храмаў у ерусалімцаў, александрыйцаў, антыяхійцаў, грэкаў, македонцаў, сэрбаў, баўгараў і ў іншых народаў, якія таксама належаць да праваслаўнай царквы, яны-ж сталі хрысьціянамі значна раней чымсьці жыхары Масквы.

У Беларусі ў вёсцы Мураванка (Маламажэйкова) Горадзенскай воб. захавалася мураваная царква, купалы яе ўвенчаны шасьціканцовымі крыжамі. (Гл. фота на 4 бачынцы вокладкі) Але яна пабудавая ў пачатку ХУІ ст. Нас цікавяць купалы цэркваў з крыжамі ранейшых стагодзьдзяў. Зазірнем у Маскву.

Маскоўскі летапісны свод канца ХУст. кажа: «*Лета 1326, месяца августа 4 день заложена бысть первая церковь каменная на Москве на площади, Успение святыя Богородица, пресвященным митрополитом Петром и великим князем Иваном Даниловичем*» (**58**, б.167-168)

Саборная Ўспенская царква каля 1470 г. патрабавала рамонту, яе верх з купалам пагражаў абваліцца і маскоўскі летапісец піша: «*Двинулися своды ея, древом убо подкреплены быша*» (**58**, б.293) Перабудова Ўспенскае саборнае царквы была закончана ў 1486 г. Дасьледчык А.Некрасаў выказаў прыпушчэньне, што верх перабудаванага сабору 1486 г. «воспроизводил» форму верху сабору з 1326 г. Зь ягоным прыпушчэньнем пагадзіліся. Н.Варонін, дасьледуючы архітэктурную кампазацыю прыйшоў да высновы, што верх Усьпенскага сабору мае падабенства зь верхам Спаса-Прэабражэнскага храма сярэдзіны XII ст. Еўфрасіньнеўскага манастыра ў Полацку (**59**, 157) Ён лічыць, што весткі аб полацкай архітэктуры траплялі ў Цьвер, не выключана, што ў Цьверы працавалі полацкія дойліды. Бо князі і баяры радніліся праз сужэнства, а духавенства займала адпаведныя становішчы. Дзеля прыкладу, полацкі япіскап Сымон у 1279 г. быў запрошаны на япіскапскую кафэдру ў Цьвер, дзе і быў пахаваныў 1289 г. Цьвярскую кафэдру пасьля Сымона заняў сын князя полацкага Гердзеня япіскап Андрэй (**60**, б.406, **61**, б.344-345). Зразумела, што калі будаўніцтва ў Цьверы была закончана (прыпушчэньне Н.Вароніна) цьвярскія дойліды прыйшлі ў Маскву да Івана Каліты і Н.Варонін кажа: «*Исходя из изложеных соображений мы предлагаем схему реконструкции древнейшего храма в Москве*». (**59**, б.157)

У 1861 г. архімандрыт Макары, пазьнейшы мітрапаліт, апублікаваў свае досьледы «О форме крестов на главах храмов и колоколен». Ён пісаў, што «по предложению на Стоглавом соборе положено было следующе правило: *ныне убо водружон бысть і поставлен святой крест благочестивым царом Иваном на соборнйа церкве Пречистое Богородицы на новопозлащенном версе, якоже есть воздвизательный крест, им же благословляют. И тако да стоит на славу Богу и на умножение лет благочестивому царю Ивану и на сохранение всего российского царствия, и таковые святые кресты на церквах и вперед да поставляют*» ( **62**, б.145-146)

Архімандрыт Макары адзначаў, што пастанова Стаглавага сабору 1551 г. сьведчыць

(Працяг.Пачатак ў №8-2(12))

аб тым што крыжы на купалах не былі васьміканцовыя, толькі з 1551г. «*начали быть поставляемы кресты восьмиконечные. Стоглав одобрил для водружения на храмах такие кресты... какой поставлен был царем Иоаном Васильевичем на Успенском соборе. Но если воздвизательный крест, поставленый царем, был восьмиконечный как засвидетельствовал в 1682 г. перед раскольниками патриарх Иоаким, то без сомнения, кресты прежде поставлявшиеся на храмах были не восьмиконечные, а другого вида*». (**62**, б.146) Паступова тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага ўваходзіла ў склад Маскоўскае дзяржавы,адначасна праваслаўныя і вуніяцкія храмы ВКЛ далучалі да маскоўскай патрыярхіі. Макары кажа:«*в конце прошлого и нынешнего столетия, когда дозволено было устраивать единоверные церкви, принято воздвигать на их кресты только осьмиконечные*»(**62**, б.147).

Такім чынам, на працягу амаль 3 стагодзьдзяў на купалах беларускіх цэркваў замацавалася форма васьміканцовага крыжа. Аднак захаваліся старажытныя малюнкі і гравюры нашых цэркваў, зь якіх можна даведацца аб форме крыжа на купалах.

А.Семянтоўскі зьмясьціў малюнкі цэркваў Параскевы—Пятніцы і Барысаглебскае, Бельчыцкага манастыра. Цэрквы гэтыя былі мураваныя і пабудаваныя ў XII ст. Верагодна, што дойлідам іх быў майстар Іван. Купалы гэтых цэркваў увенчаны шасьціканцовымі крыжамі (**63**, б.114., **64**. б.208).

Віцебская царква Благавешчаньня датуецца сярэдзінай XII ст. Яна зьмешчана на пляне г.Віцебска 1664 г. Маецца малюнак яе ў кнізе П.Бацюшкава. Архітэктурная кампазыцыя малюнкаў розная, але на пляну і на малюнку адзначана: купалы ўвенчаны шасьціканцовымі крыжамі (**65**, б.15, **66**, б.65).

Паводля П.Бацюшкова, княжна віцебская Марыя, жонка Альгерда ў 1345 г. пабудавала каля віленскага замка царкву імя Параскевы—Пятніцы, у гэтай царкве пахавалі фундатарку ў 1349 г. Царква прастаяла да 1557 г. і згарэла, праз тры гады адбудаваная, толькі пад імём Богазьяўленьня, але віленчукі надалей называлі яе Пятніцкай. Купалы Пятніцкай царквы ўвечнаны шасьціканцовымі крыжамі.(**67**,вып.УІ)

Берасьце узгадваецца пад 1019 г. З 1316 г. Берасьцейская зямля далучаецца да ВКЛ й уваходзіць у Троцкае княства, удзел Вітаўта. Дата пабудовы царквы сьв.Міколы ў Берасьці ня ёсьць ведамая, але можна прыпушчаць, што яна была змураваая ў XII-XIII стст. у адным часе з пабудоваю цэркваў у Драгічыне,Горадні, Ваўкавыску, Наваградку.

У Пскове не захаваліся цэрквы з XII — ХУІ стст. у сваім першапачатковым арыгінальным выглядзе. Аднак зьбераглася ікона з 1380 г. На іконе паказана частка Пскова, дзядзінец з цэрквамі. І. Лабуціна выкапіравала зь іконы дзядзінец кн.Даўмонта й апублікавала. Цэрквы Дзьмітрыя Салупскага з 1138 г., Цімафея Газскага з 1268 г. сьв. Юрыя з 1269 г., Хведара Стратлата з 1272 г., Пакравы прэсьвятой Багародзіцы 1352 г., Цімафея-Даўмонта з 1374 г., сьв Кірыла з 1374 г. і некаторыя іншыя цэркы на дзядінцы мелі на купалах шасьціканцовыя крыжы (**68**, б.104, **69**,б.172)

Мы стараліся сабраць інфармацыі аб цэрквах, пабудова якіх адбылася да каранацыі Ягайлы ў Кракаве. Ягайла пасьля каранацыі пачаў ужываць пячаткі з эмблемай рыцара-князя на кані і гэты рыцар-князь мае шчыт з крыжам.

Паколькі на пляне1664 г. паказаны Ўзгорскі замак ў Віцебску, на тэрыторыі якога пабудаваныя цэрквы Ўвядзеньня прэсьвятой Багародзіцы і Спаса-

Прэабражэньня на сутыку XYI—XYII стст. купалы іх увенчаны шасьціканцовымі крыжамі, што-б сьведчыла аб захаваньні традыцыі ставіць шасьціканцовыя крыжы на купалах беларускіх храмаў.(70.б.34,71,б.648-649)

З далучэньнем нашых земляў да Масковіі і пастановамі маскоўскай патрыярхіі ў справе беларускіх цэркваў «*воздвизать на их кресты только осьмиконечные*».У 1746 г. у Віцебску збудавалі Ільлінскую царкву, але не падпаракаваліся загаду і купалы ўвенчалі традыцыйным шасьціканцовым крыжам (70, б.243)

Дзеля гэтага, калі М.Каргер на верхнім замку ў Полацку раскапаў рэшткі царквы з XII ст., то пад кіраўніцтвам Г.Штыхава распрацавана схэма рэканструкцыі яе, на кутале зьмясьцілі шасьціканцовы крыж(72, б.119)

## Бібліяграфія


58. ПСРЛ, т. XXY, М.Л. 1949
59. Ворнин Н.Н. Зодчество северо-восточной Руси. АН СССР. М., 1962
60. ПСРЛ, т. XY, СПб, 1863
61.Троицкая летопись, рэконструкция текста М.Д. Приселкова АН СССР, М.1950
62. Архімандрыт Макары. О формах крестов на главах хрмамов и колоколен. Известия Им.-Археологического общества, т. 2, вып. 3, М. 1860
63.СементовскийА.М.Белорусские древности. СПб 1890
64.Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX —XIII вв .М.1966
65. Левко О. Вицебск XIY-XYIIIв. Мн. 1984
66. Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. СПБ 1890
67.Батюшков П.Н. Памятники русской старины в западных губ. империи, вып 6, Вильня 1874
68.Лабутина И.К. Летописные данные XIY в.о крепостных сооружениях Пскова СА, вып. 2, М. 1970
69.Белецкий В.Храм и некоторые вопросы атрибуции церквей Довмонтового города. Сборник Археологического изучения Пскова. М. 1983.
70. Гісторыя беларускага мастацтва т.2. Мн. 1988
71. «ЭЛіМ Беларусі» т.1. Мн.. 1984
72. Штыхаў Г.Ажываюць сівыя стагоддзі Мн. 1982.




Дзядзінец Даўмонта ў Пскове


Успенскі сабор у Маскве






















Цэрквы: 1. Праскевы Пятніцы ў Полацку 2. Барысаглебская ў Полацку 3. Благавешчанская ў Віцебску 4. Мікалаеўская ў Берасьці 5. Прэабражэнская з пляну 1664 г. Узгорскага замку 6. Увядзенская з пляну 1664 г. Узгорскага замку 7. Ільнінская 1764 г ў Віцебску

# АСЬВЕТНІКІ

## Сьвяты Кірыла Тураўскі


Міхась Дубок


У гэтым годзе прыпадае 810 гадавіна сьмерці япіскапа Тураўскага, Кірылы, якому праваслаўная царква устанавіла 11 травеня сьвята.

Дакладны год нараджэньня яп.Кірыла невядомы. Падаецца ўмоўна, што ён нарадзіўся каля 1130 г., бо ў тыя часы хіратанізавалі ў япіскопа не маладзей за 40 год, але Кірыла, мог быць на некалькі гадоў маладзейшы. Ён, будучы япіскапам, напісаў ліст кн.Андрэю Багалюбскаму ў справе яп. Растоўскага Хведара, які быў у канфлікце зь мітрапалітам Канстантынам. Гэты ліст захаваўся. На ім няма даты, але летапісы падаюць дату канфлікту 1168-1169 гг.

Дата сьмерці сьв.Кірылы таксама дакладна невядомая, але прыпушчаюць, што ён памёр у 1182 г. У Іпатаўскім летапісу пад 1182 г. ёсьць апісаньне, як пячорскія манахі ў пятніцу абралі сабе «папа Василия» ігуменам. У нядзелю ў манастыр прыехалі мітрапаліт Нікіфар зь япіскапамі Лаўрынам Тураўскім і Мікалаем Полацкім. Мітрапаліт папа Васіля «постриже своею рукою». Такім чынам, ў 1182 годзе тураўскую кафэдру ўзначальваў не Кірыл, а Лаўрын. Прыпушчаем, што мітрапаліт запрасіў полацкага япіскапа на хіратонію Лаўрына ў япіскапа тураўскага, а пазьней разам паехалі ў Пячорскі манастыр.

Паходжаньне Кірыла невядомае, бацькі ягоныя маглі быць баярамі і гараджанамі з Тураўскага княства. Вельмі сумніўна, каб паходзіў зь сялян або бедных гараджан - рамесьнікаў. Калі выйшаў ён з гараджан, то з вельмі заможных, бо бацькі змаглі даць яму добрую пачатковую асьвету, якая так запаланіла яго, што ён пайшоў у тураўскі манастыр сьв. Міколы.

Манастыр, праўдападобна, меў багатую бібліятэку, у якой напэўна былі кнігі з Балгарыі і Сэрбіі. Гэта былі пераклады грэцкіх і бізантыйскіх філёзафаў, аратараў, сьв. айцоў царквы і царкоўных архіпастыраў. Не выключана, што ў манастырскай бібліятэцы знаходзіліся кнігі ў грэцкай і лацінскай мовах.

Літаратурная спадчына сьв. Кірылы Тураўскага, якая захавалася да нашых дзён, сьведчыць, што ён ведаў некалькі моваў і дасканала пазнаёміўся з творамі клясычнай грэцкай і бізантыйскай рэторыкі. Быў ён, паводля Г.Федотава, адным з найлепшых бібліяведаў як Новага, так і Старога Запаветаў у тагачаснай Русі.

Творчасьць Кірылы можна падзяліць на тры групы: казаньні—павучэньні, лісты і малітвы. Пакольні выкарыстаў ён традыцыі антычнай і бізантыйскай аратарскай прозы то ўзьняўся на такую вышыню красамоўства, што ня было яму роўнага на Русі. Ім захапляліся, ім ганарыліся, аб ім гаварылі: «Паче всех воссиявших нам на Руси». Ён атрымаў тытул —славянскі Златавуст.

Кірыла Тураўскі выкарыстоўваў у сваім красамоўстве алегорыю, гіпэрбалы, сымбалізмы , рытарычныя звароты, параўнаньні. Ён стараўся інтэлектуальна й эмацыянальна ўзьдзейнічаць на слухача і на чытача. Ягонае майстэрства слова было ўзьнёслым, вытанчаным, была гэта паэзія ў прозе. Дасягнуць гэтага майстэрства не было яму

лёгка.Ён паступіў у манастыр, пастрыгся ў манахі, адсэпараваўся ад рэшты «братии», збудаваў сабе асобую кель, якую назвалі стаўбом. У гэтым стаўбе аддаў сябе малітвам і студыям, чытаньню кнігаў. Ён стаў аскетам, з часам і прапаведнікам. Калі тураўская кафэдра стала вакантнай мітрапаліт на просьбу жыхароў Тураўскага княства хіратанізаваў Кірылу ў япіскапы.

Дасьледчыкі: япіскап Менскі і Тураўскі Яўген, Е.Галубінскі, Н.Нікольскі, а.А.Надсан і іншыя — лічаць, што ў Пралогу, які з сутыку XIУ-XУ стст. «Жыціе» яп. Кірылы ня ёсьць арыгінал, а копія. Сам-жа арыгінал значна старэйшы. Мажліва «Жыціе» было напісана ў XIII або пачатку XIУ стст.

Аскетычны вобраз жыцьця Кірылы, ягоныя глыбокія веды Бібліі, ягонае красамоўства разглядаліся народам як Божы дар і таму ў людзкіх вачах быў ён пасланец.

Людзі Тураўскай япархіі, пачалі праслаўляць яго, зьвярталіся ў сваіх малітвах як да боскага апекуна. У вачах людзей стаўся ён сьвятым. Царкоўная ярархія мусіла ўпісаць ягонае імя ў Пралог. Аднак зрабілі ярархі гэтае неахвотна, калі-б было адваротнае, то ў Беларусі, асабліва ў Турава-Пінскай япархіі былі-б пабудаваныя і пасьвечаныя цэрквы Кірылу Тураўскаму. Такіх цэркваў у Беларусі няма, прынамсі нам яны невядомыя.

У далёкай Амэрыцы беларускія эмігранты пабудавалі цэрквы сьв. Кірылу Тураўскаму. Трэба верыць, што цяпер, калі Беларусь стала незалежнай і пачаўся працэс будаваньня цэркваў, то гэтым разам беларускі япіскапат, які ачолены Яго Высокапрэасьвяшчэйнейшым мітрапалітам Філарэтам, паклапоціцца, каб сталі пасьвечаныя храмы беларускаму Златавусту, сьв. Кірылу, япіскапу Тураўскаму.



Царква сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк



# ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ



## Мая няволя

Лявон Шыман

Пасьля бані нас павялі ў барак. У ім зьмяшчалася 140 чалавек. Нары ў два ярусы. Нарадчык загадаў пастроіцца ў два рады, пералічыў нас і запісаў усіх сабе ў кніжку. Сказаў, што мы 2-я каранцінная брыгада. Паколькі я быў самы вышэйшы ростам і крыху выдзяляўся ад іншых, ён спытаўся, кім я быў у арміі. Я сказаў, што старшынёй. «Тады будзеш у іх за старшага. Будзеш іх карміць, атрымоўваць ежу, дзяліць яе паміж брыгадай, вадзіць на працу і трымаць усіх у кучы».

Назаўтра раніцай у наш барак заляцелі зьняволеныя з палкамі у руках і пачалі выганяць нас з барака. Спачатку пагналі ў сталовую, дзе я атрымаў на кожнага па 200 грамаў хлеба, 500 грамаў супу і 300 грамаў кашы. Пасьля сьняданьня ўсіх сабралі на прахадной і пабрыгадна сталі выганяць на працу. Мы праходзілі апошнімі. Назвалі нумар нашай брыгады імаё прозьвішча. Нам далі 4 лучковыя пілы, 4 двухручныя, 12 сякераў і папярэдзілі, калі парушым парадак у дарозе, канвой будзе прыбягаць да зброі без папярэрджаньня. Пешшу мы прайшлі 7 кіламэтраў. Лесасека была агароджана просекай 25 метраў шырынёй. Цераз кожныя 200 метраў стаяла каравульная вежа.

На складзе лесаматэрыялаў нас сустрэў такі-ж самы вязень, але па чыну майстра. Ён адвёў на старую дзялянку, дзе было шмат неспаленых сухіх верхавін і рознага гнільля, сухастойных дрэваў: «Вось ваша дзялянка, абсякайце і паліце сучкі, а драўніну распілкоўваце на аднаметровыя дровы. Калі палена будзе болей за 16 см у дыяметры, яго трэба шчапаць». Норма для каранціньнікаў 1м$^3$ на чалавека. Калі выканаем, атымаем па 950 гр. хлеба і залік за 1 дзень —два.

За першы дзень мы ўсе разам напілавалі толькі 8 м$^3$. Норму не выканалі й атрымалі на наступны дзень гарантыйную пайку 650 грамаў хлеба. Яе давалі таму, хто хоць выйшаў на лесасеку. Кармілі нас 3 разы на дзень. Раніцай суп і каша, 200 гр. хлеба, у абед на лесасецы гарачы суп і 250 гр. хлеба, вечарам суп, каша, 200 гр. хлеба.

На наступны дзень мы знайшлі ў сталовую сьнедаць, я атрымаў у хлебарэзцы хлеб і раздаў яго сваім у рукі. Пакуль хадзіў за супам і кашай, нейкія два «жучкі» падкраліся да стала і з-пад рук выхапілі 6 паек хлеба. Хлопцы мае, паказаючы на іх, сказалі: «Вунь тыя ў нас вырвалі хлеб з рук». Я ўзяў драўляны паднос, павольна падыйшоў да іх. Яны разгадалі мой намер і пачалі пужаць: калі я іх зачаплю, яны мяне зарэжуць. Каб не было каму мяне рэзаць, я апусьціў паднос спачатку аднаму злодзею на галаву, пасьля другому. Пайкі, якія высыпаліся ў іх з-за пазухаў, я падабраў і вярнуў сваім. Брыгада, убачыўшы маю рашучасьць, яшчэ больш згрурталася вакол мяне. Мы зразумелі, што ў гэтым пекле ў адзіночку не пражывеш.

Пяць дзён хадзілі мы на працу ўсе, а пасьля па аднаму, па два, па тры чалавекі ў дзень. Сталі ўпадаць у сіле і трапляць у мэдычны пункт, зь якога мала хто выходзіў жывы. На дваццаць другі дзень ў маёй брыгадзе застаўся толькі Саша Кавалёў і я. Праз тры месяцы я ,нягледзячы на тое,



(Працяг, Пачатак у №1 (11), 2(12))

што зьядаў па 950 грамаў хлеба штодзёна, адчуў, што хутка траплю ў стацыянар, бо сілы пачалі пакідаць мяне. Быў я малады і мне вельмі хацелася жыць. Аднаго дня на працы выпрасіў у інструмэнтальшчыка шасьцігранны напільнік. Затачыў на камені, як нож, надзеў яго на ручку і за пазухай пранёс у зону, нягледзячы, што кожны дзень на прахадной нам рабілі шмон, абмацоўваючы ўсё цела. Вечарам, калі ўсе павячэралі, я падыйшоў да раздачы, паклікаў повара-раздатчыка, паказаў яму нож і сказаў: «Кацо, карміць будзеш— жыць будзеш, як у вас у Грузіі, да ста гадоў. Карміць ня будзеш — ножык гэты будзе тырчаць у тваёй спіне». Повар пачаў даваць мне астаткі кашы і супу. Паціхоньку я стаў ад'ядацца. Але ўсяму бывае канец.

Аднойчы на працы я ўдарыў бервяном нагу. Яна апухла, і я застаўся ў зоне на бальнічным. Знайшліся сябрукі, якія выцыганілі на кухні вядро бульбяных лушпаек. Бульбу чысьцілі толькі для абслугі і кіраўніцтва. Усім астатнім варылі ў мундзірах інават гнілую не выкідалі. Зварылі гэтыя лушпайкі, але захацелася заправіць іх маслам. У тых, хто працаваў у зоне, быў абед. У повара стаяла міска з посным маслам, якое ён напёрсткам ліў у кожную міску кашы. Я падыйшоў да раздачы, забраў гэтую міску. Повар даведаўся маё прозьвішча і ў якім бараку я жыву. Калі яго «прыціснулі» з маслам, ён вымушаны быў назваць маё прозьвішча.

Адміністрацыя лягера мела дваццаць здаровых адборных мужыкоў. На працу ў лес яны не хадзілі, а займаліся толькі тым, што выганялі нас на працу.А калі наглядальнікі не спраўляліся ўладзіць якінебудзь канфлікт, яны налятали з палкамі і наводзілі парадак. Іх кармілі асобна, разам з кіраўніцтвам. Гэта былі быццам-бы апрычнікі пры цары Іване Грозным. Вось яны і заляцелі ў наш барак, паднялі мяне з нараў іпачалі біць палкамі. А калі дасталі ў мяне з-за пазухі нож, які я зрабіў сабе з напільніка, то біць пачалі яшчэ больш. На чале зь імі быў сам на-чальнік рэжыму. Ён сказаў: «Вядзіце яго ў ізалятар». Але як толькі я падымаўся на ногі мяне зноў пачыналі біць. Ляжачага ня білі. Так, я на пузе дапоўз да ізалятара. Мяне, ужо зьнясіленага, падцягнулі да дзьвярэй камэры і кінулі туды праз парог. Я праляжаў без прытомнасьці да самай раніцы. Калі я ачнуўся, то ні рукамі, ні нагамі ня мог варухнуць. Вельмі хацелася піць. На спіне падсунуўся да акованых жалезам дзьвярэй і пастукаў галавой. На мой стук адгукнуўся загадчык ізалятарам Мірон Ісакавіч, былы начальнік лягера на будаўніцтве Балтыйскага канала. За зьдзекі над вязьнямі суд асудзіў яго на дзесяць гадоў. Але крумкач крумкачу вока не дзяўбе. Ён і тут, у лягеры, жыў за зонай, трымаў карову і ў зону прыходзіў толькі на працу.

Загадчык ізалятара прынёс мне збан сывараткі, і я ўсё выпіў зь яго рук, пасьля чаго зноў страціў прытомнасьць. (Як пасьля мне стала вядома, ён па маім прозьвішчы прыняў мяне за свайго).

Апамятаўся я ў стацыянары на апэрацыйным стале. Доктар Іван Іванавіч і сёстры міласэрнасьці вялі паміж сабой спрэчку — выжыву я ці не. Але ёсьць на сьвеце Бог. Праляжаў я ў стацыянары шэсьць тыдняў. Усе мае раны зажылі і зьніклі сіняві. Мяне выпісалі й адправілі у брыгаду брыгадзіра Шчарбака Паўла.

Першы дзень, калі я выйшаў на працу, брыгадзір даў на прахадной сякеру і паказаў дзялянку, дзе ляжала шмат неспаленых сучкоў. Я зложыў іх у кучы, разьвёў агонь, і калі, седзячы каля агню,

саграэўся ды задрамаў. Скрозь дрымоту пачуў, як па дзялянцы затрашчала гальлё Да мяне зь вялікім калом падляцеў брыгадзір. Ён крычаў, што заб'е мяне на месцы, таму што я не працую. Я пасьпеў падняць сякеру і крыкнуў яму: «Давай хто каго!». Той спыніўся, патрабуючы ад мяне кінуць сякеру. Я сказаў, што кіну яе толькі пасьля таго, як ён пакіне кол. Мінуты тры мы глядзелі адзін на аднаго. Пасьля ён кінуў палку, а я паклаў сякеру каля сваіх ног. Брыгадзір прапанаваў закурыць і паміж намі пайшла гаворка. Ён, за свой 20-гадовы тэрмін зьняволеньня, яшчэ не сустракаў чалавека, які-б адважыўся-б падняць на яго руку. Мы пачалі знаёміцца. Я расказаў яму сваю гісторыю, ён паведаміў сваю. Нарэшце, сказаў: «Які ты малады, прыгожы мужчына, я так і быць бяру цябе на парукі. Станеш днявальным у секцыі, дзе жыве наша брыгада. Такія зьвяры мне патрэбны». Ітак, на працягу месяца я на лесасеку не хадзіў. За гэты час я адгадаваўся: з 65 кілаграмаў стаў важыць 80. Але аднойчы брыгадзір сказаў: «Хопіць дурня валяць, заўтра пойдзеш на лесасеку». Зь першага дня ён уручыў мне фінскую лучковую пілу і пачаў вучыць, як валіць лес з корня. Курс навукі праходзіў пасьпяхова і праз тыдзень я ўжо мог яго замяніць .Спачатку я мог зваліць з корня 25 м³ драўніны, а прз месяц ужо валіў 50 кубаметраў. Раней у брыгадзе было два павальшчыкі, але я замняіў іх адзін.

Апраналі нас добра і кармілі досыта. Хоць усё было поснае, але есьці можна было колькі хочаш. Я зьядаў тады за адзін раз поўвядра супу, тры кіло кашы.

Для таго, каб пацешыць сабе і брыгаднікаў, наладжваў артылерыйскую падрыхтоўку. Падпільваў і падсякаў 25, а то і 50 карнёў цапным мэтадам, робячы такі грукат і выбухі, што, здавалася, гэта рвуцца міны. У дальнейшым я так налаўчыўся валіць лес, што ставілі палку, на яе чаплялі шапку, і я ствалом, а не сучкамі, пападаў па шапцы .Увесь лягер пра мяне гаварыў, і ўсе на мяне глядзелі як на якога зьвера. У той час мне было 25 гадоў. Я адгадаваў цёмнарусую бараду і вусы, ізбоку гледзячы, мне давалі гадоў сорак. Усё блатные і неблатныя мяне баяліся. Вагі дасягнуў 90 кг, меў вялікі жывот, бо шмат еў поснай ежы, але мускулы былі адметныя.

З двух тысяч чалавек на лягерным пункце было 1 300 славян і 700 чалавек іншых нацыянальнасьцей. Лягер наш працягваўся ад станцыі Сухабязводнае па басейну ракі Унжа на 200 кіламетраў на поўнач, захапіўшчы Кастрамскую вобласьць. На 200 кіламетраў была пабудавана чыгунка. Ад яе адходзілі да кожнага лягеранага пункта вусы. Лягер налічваў прыблізна дзьвесьце тысяч чалавек вязьняў, не лічачы аховы.

У наш лягер кожны месяц прыходзіла папаўненьне па 250-300 чалавек, але з гэтых людзей прыжывалася ня больш 5-10 чалавек. Людзі не вытрымлівалі каранцін. Паміралі кожны дзень, з морга праз прахадную ў сярэднім штодзённа вывозілі каля 10 нябожчыкаў. Чаплялі ім да нагі бірку і закопвалі за конскай базай. Зімой, калі была мёрзлая зямля, проста ў сьнег.

У красавіку рабілі Сталінскі суботнік. У гэты дзень на працу нас не вывозілі. Усім лягерным пунктам капалі роў, жалезнымі кручкамі чаплялі за рот трупу і сьцягвалі яго ў яму. Потым засыпалі зямлёй. Ахова, майстры і брыгадзіры, каб чым-небудзь разьвеяць сваю нуду, аднойчы, калі ўжо ўсе сабраліся ў загарадцы і чакалі цяплушку, якая павінна была адвезьці ў зону, рашылі зрабіць спаборніцвы, накшталт

тых, што рабілі ў старажытным Рыме. Праўда, гладзіатараў вырашылі замяніць павальшчыкамі.

На адлегласьці 200 м ад агарожы стаялі побач дзьве сасны. Па камандзе судзьдзяў удзельнікі конкурса на лепшага павальшчыка павінны даляцець да аднаго з дрэваў, падсекчы яго, спілаваць і вярнуцца ў агароджу як найхутчэй. Сталі выбіраць «гладыятараў». Славяне аднадушна выбралі мяне, а каўказцы і сярэднеазіяты узьбека. Звалі яго Маткарым. Быў ён за мяне на галаву вышэйшы і шырэйшы ў плячах. Мая перавага была ў тым, што ў мяне быў большы спрытны фінскі з фігурным зубам лучок. У Маткарыма быў лучок наш, айчынны. Па камандзе з лучковымі піламі і канадскімі тапарамі мы паляцелі да гэтых дрэваў. Ён быў спрытнейшы і ў бегу мяне перамог. Першы даляцеў да сосен і, як мне здалося, выбраў больш тонкае дрэва. Секануў пару разоў і пачаў пілаваць. Я яшчэ бег да сосен. Двухтысячная аўдыторыя падтрымоўвала: кожная нацыянальная групоўка — свайго. Я добра ведаў, што для таго, каб хутчэй сьпілаваць дрэва, падсякаючы ,трэба пастарацца высекчы больш сяродку. Гэта давала 50% посьпеху. Перахрысьціўся, папляваў на далоні і стаў падсякаць. Пілаваць пачаў толькі тады, калі узбек ужо дапілоўваў дрэва да сярэдзіны. Фінскім лучком ня кожны лесаруб можа дасканала валодаць: крыху пакрывіўшыйся рэз, ён будзе засякаць, і дрэва хутка не спілуеш. Паколькі я ведаў нораў свайго лучка і бачыў, як Маткарым падсек дрэва, то быў упэўнены, што спілую дрэва хутчэй. Калі я дапілаваў да двух трэціх дыяметра, сасна ад подыху ветру рыпнула. Я пілануў яшчэ два разы па краях і, не чакаючы, пакуль яна будзе нахіляцца, у развалачку накіраваўся да агароджы. Славяне ня верылі, што дрэва паваліцца, і стаялі глуха. А азіяты ўсё крычалі: «вах-вах». І толькі ў наступны падых ветру сасна пачала хіліцца дадолу. Маткарым, дапілаваўшы да краёў падсечкі, пачаў сваё дрэва піхаць плячом, але яно не паддавалася. І толькі тады, калі падсек паўторна (я яму тады крыкнуў: «Падсячы яшчэ раз!») рухнула на зямлю. Калі маё дрэва першым пачало хіліцца, славяне, як азьвярэлыя, зараўлі «Ура!» і працягвалі крычаць, пакуль я не заляцеў за загарожу. Тут мяне падхапілі пачалі гойдаць на руках. Падлятаў уверх, як футбольны мячык.

Маткарым, прыляцеўшы у загарадку, ад злосьці аж заплакаў. Адзін брыгадзіраў зь сярэднеазіятаў сказаў: «Спаборніцтвы яшчэ не скончаны. Няхай сапернікі пабарацца». Ад барацьбы я пачаў адмаўляцца, гаварыў, што бароцца не ўмею і ніколі гэтым не займаўся. Але мяне выпіхнулі ў круг, дзе ўжо стаяў Маткарым, засучыўшы рукавы. Ён прапанаваў мне ўзяцца за папругі, як боруцца ў іх ва Узьбекістане. Я не згадзіўся. І ўсё-такі пачалі мы змагацца, палажыўшы адзін аднаму рукі на плечы — крыж-накрыж. Маткарым, нягледзячы на тое, што быў грузны, выявіўся дужа спрытным. Я падумаў, што вадзіцца мне зь ім нязручна. Вырашыў гэтую спрэчку адным прыёмам. Прысеў і рэзка абхапіў яго за стан. Калі мае пальцы сшчапіліся за яго спіною (у руках я быў прыткі), прыціснуў яго да грудзей, выпрастаў калені й, адарваўшы яго ад зямлі, паціхеньку паклаў на лапаткі. Зноў пачаліся лікаваньні славян. Азіяты не згадзіліся з канчатковай перамогай, гаворачы: «У вас, славянаў, змагаюцца да трох разоў». Я быў вымушаны другі раз выходзіць на круг. Паўтарыў той самы прыём, узьбек быў на лапатках. За трэцім прыёмам, калі ў майго саперніка ногі па-

чалі адрываецца ад зямлі, ён моцна ўкусіў мяне за грудзі. Ад нечаканага болю я кінуў яго наводмах аб зямлю. На Маткарымава няшчаьсце, ён упаў спіною на маленькі пянёк, з два пальцы таўшчынёй, сьсечаны тапаром. Я пачуў на свае вушы, як у яго хрупнуў пазваночнік. Маткарым пачаў енчыць і качацца па зямлі. Я стаяў воддаль, пакуль яго землякі не кінуліся да мяне з тапарамі. Але славяне ўзялі мяне ў кальцо. Заварылася такая каша, што цяжка было зразумець, дзе свае, а дзе чужыя. Ахоўнікі паднялі ўверх стральбу з аўтаматаў і карабінаў. Бойка прадаўжалася яшчэ і далей, але забітых не было, толькі параненыя.

Пасьля гэтага выпадку паміж «чарнявымі» і «бялявымі» адносіны пагоршыліся. Неўзабаве, адбылася бойка, пасьля якой многіх яе ўдзельнікаў некуды адвезьлі, а у лягеры пачалося новае жыцьцё. Мне моцна не пашанцавала: лягерны ўпаўнаважаны, згадаўшы пра бойку яшчэ ў турме, пасадзіў мяне ў барак узмоцненага рыжыму. Барак гэты быў такі , як і камэры ў турме. Кармілі нас праз кармушку. Спалі мы ў адзежы на голых нарах. На працу вадзілі пад узмоцненым канвоем. Давалі самую цяжкую працу. Кармілі гарантыйным пайком, каб толькі не памёр. У дзень — 650 гр. хлеба з кукурузы, а то із вотруб'яў. Перад гэтым я напісаў дамоў ліст, каб прыслалі пару кніжак мастацкай літаратуры. Дзядзька мой вельмі баяўся бальшавікоў і прыслаў гісторыю ВКПб. А сябра Толя «Новую зямлю» Коласа . Гісторыю ВКПб я выкінуў, а «Новую зямлю» прыхапіў з сабою у БУР. Вярнуўшыся з працы пасьля вячэры, два чалавекі на зьменку палілі смаляную лучыну, якую загатаўлялі на працы, а я чытаў у голас паэму «Новая зямля», чытаў да гаго часу, пакуль не засынаў апошні слухач. Нягледзячы на тое, што ў гэтым бараку былі ад'яўленыя бандыты — прайдзісьветы розных нацыянальнасьцяў, усе яны слухалі і вельмі добра разумелі беларускую мову. Раніцай я стаяў у дзьвярах з шапкаю у руках і кожны, хто слухаў, адламваў крышку хлеба ад сваёй пайкі кідаў мне ў шапку. Адбыць свой тэрмін у БУРы мне поўнасьцю не давялося. На лесапале патрэбны былі такія павальшчыкі, як я. Мяне зноў адклікалі ў брыгаду, паставілі брыгадзірам.

Аднойчы загадчык прырэльсавага складу Жалязінскі прайграў мне ў карты дзьве тысячы кубаметраў лесу. Лес быў у яго ў запасе. Справа ў тым, што пры загрузцы вагонаў поўнасьцю вагон не загружалі, а толькі насупраць дзьвярэй. Пісалі, што пагрузілі 70 м³, а на самой справе, трохі больш за 20 м³. Усё гэта праходзіла таму , што тыя, хто разгружаў вагоны, былі такімі самымі вязьнямі, як і мы. Увесь час хацелася, каб меньш папрацаваць, а больш атрымаць. Яны маўчылі, а руднічную стойку ад нас адпраўлялі ў маскоўскі вугальны басэйн. Там вагон разгрузяць, пайку атрымаюць, а колькі стойкі было ў вагоне — усе маўчалі. Маючы такую форму працы, можна было паўгода не працаваць цэлай брыгадзе колькасьцю 30 чалавек.

Неўзабаве ў наш лягерны пункт прыйшло папаўненьне а акупаванай Усходняй Нямеччыны, 35 колішніх афіцэраў ад лейтэнанта да маёра. Начальнік лягернага пункта загадаў мне: «Прымай брыгаду колішніх афіцэраў, і каб усе яны засталіся жывыя. Што залежыць ад мяне, я дапамагу.» Так зь перадавой я перайшоў у брыгаду навічкоў, якія па нашаму лягернаму закону былі кінуты на выміраньне.

На наступны дзень нарадчык аб'явіў на прахадной прыбыўшым што я буду ў іх брыгадзірам. Я прывёў іх на дзялянку,

пасадзіў усіх у два рады, як у войску. Пачалося знаёмства. Палова з афіцэраў трапілі сюды за згвалтаваньне маладых немак. У той час мне было 25 гадоў, але насіў бараду, вусы і доўгія валасы, як у бацюшкі. На грудзях у мяне вісеў крыж з чачоткавай бярозы. Я сказаў, што было ў мяне вайсковае званьне старшына. А прыйшоў я да іх у брыгаду для таго, каб яны пасьпяхова перажылі карацін і ўсе засталіся жывымі. Яшчэ я папярэдзіў: «Неба высока, а Сталін далёка. Хто мяне не будзе слухаць, адлічу з калектыву».

Цэлы тыдзень мы хадзілі па лесасецы, зьбіралі й елі зайцаву канюшыну й іншыя спажыўныя травы і лісьце. Самыя смачныя былі маладыя сасновыя парасткі. Травы можна было наесьціся толькі на лесасецы. У лягерным пункце ёй не давалі вырасьці. Тут ўсё зьядалі з карэньнем. Праз тыдзень мы прыступілі да навукі. Першы дзень былі тэарэтычныя заняткі з павальшчыкамі. Астатнія былі слухачамі і гледачамі. Спачатку я паказваў і расказваў пра лучковую пілу, як пілаваць, якой вышыні павінен быць пень. Пасьля кожны кандыдат у павальшчыкі падыходзіў да дрэва і рабіў тое, як я паказваў. Па чарзе па кожнай спэцыяльнасьці мы праводзілі заняткі кожны дзень на працягу тыдня. Толькі праз паўтара месяца мы пачалі пілаваць лес. А праз два адпараўляць на склад нашую норму 40 м$^3$. Праўда, я прымусіў хлопцаў адпраўляць лесу крыху меньш, бо у мяне яшчэ быў лес у запасе. Хлопцы пасябравалі, згуртаваліся. Прабыў я зь імі тры месяцы і ў апошні дзень, на разьвітаньне аб'явіў Стаханаўскую вахту. У гэты дзень мы, з дапамогай загадчыка складам, выканалі па дзесяць дзённых норм. На прахадной сустрэлі нас з аркэстрам. Кармілі на сцэне спэцыяльна прыгатаваным абедам. Калі мы скончылі есьці і вылезлі з-за стала, на стол наляцелі, як каршуны, дахадзягі і ў бітве за лепшы кусок паміж сабой даядалі нашую ежу.

Аднаго дня прыехаў да мяне бацька. У гэты дзень у нас на лесасецы зрабілі пабег чатырнаццаць чалавек. Як пазьней мы даведаліся, з нашага лягера зьбегчы было немагчыма. Ва ўсе навакольныя вёскі не давалі ў продаж солі, і калі вяскоўцы на сваёй тэрыторыі заўважалі незнаёмца, то яго ўсёй вёскай лавілі і здавалі ўладам. За гэта іх узнагароджвалі мехам солі. А пакуль за гэтымі 14 чалавекамі наўздагон пайшлі сабакаводы зь нямецкімі аўчаркамі. Калі сабака даганяў уцекача, то адразу затрымоўваў яго, абрываючы на ім адзежу, праўда, не кусаючы за цела. Тым часам падспяваў сабакавод, прыстрэльваў ахвяру, адразаваў дзетародны ворган і клаў у сумку у доказ таго, што ўцякач ня ўцёк. Такі-ж лёс чакаў наступных. Толькі апошняга не стралялі, а прыводзілі голага (у любую пару году) на прахадную. Ставілі замерзлага, абарванага каля брамы, каб зэкі, ідучы з працы, глядзеі на гэта і ім не павадна было рабіць пабег. Назаўтра астатнія трупы прывозілі на прахадную, каб паказаць, што ніхто ня ўцёк.

Бацька мой таксама стаяў непадалёк ад гэтай брамы й усё бачыў на свае вочы. Мае статканьне з бацькам далі на 3 гадзіны у прысутнасьці надзіраццеля. Дазвалялася гаварыць толькі аб здароўі сваіх родных і блізкіх, шаптацца забаранялася. Калі надзірацель убачыць ці пачуе , што не пра тое гаворка, сустрэча прэрывалася і перадачы не прыймалі. У майго бацькі прынялі перадачу, бо ён падзяліўся ёю зь надзірацелям.

Перадачу маю паклалі ў капцёрцы побач з прахадной. Калі ходзіш на працу, можаш

кожны дзень атрымаць адзін сухар. Я і сам усёй перадачы ня ўзяў-бы. Таму што за гэтыя сухары мяне галодныя людзі ў зоне разарвалі-б на кавалкі. Тое самое рабілі із пасылкамі. Калі ў адрас вязьня прыходзіла пасылка, лепшае наглядальшчыкі забіралі сабе ў падарунак, частку дазвалялі зьесьці вязьню ў гэтай загародцы. А ўжо самыя рэшткі клаліна паліцу, перагароджаную клеткамі. Калі ходзіш на працу , то маеш права атрымаць ў дзень адзін сухар.

Аднаму нашаму хлопцу,які быў у нашай брыгадзе, матка прывезла мяшок сушонай бульбы, нарэзанай скрылькамі. Па яго згодзе мы ўсёй брыгадай забралі гэтую бульбу з прахадной і прынесьлі ў барак. Як толькі зьявіўся мяшок, усім гэта стала вядома. Мы ўзброіліся палкамі і падселі да мяшка. Пяць мінут палавіна брыгады ела, а другая з палкамі ахоўвала нас. Так мы мяняліся некалькі разоў. Астатнія сядзлі на нарах і глядзелі, як мы ядзім. Калі яны ўбачылі, што ў мяшку засталося мала, як па камандзе саскочылі з нараў, і рынуліся на нас. Адбіралі сухары нават з роту. Пасьля мяшок быў парваны на шмацьцё, а людзі поўзалі па падлозе і языком зьлізвалі крошкі. Вельмі цяжка было пражыць зімой. Летам было лепш. Усё-такі грэла сонца і быў на лесасецы падножны корм.

Аднойчы зімою, калі маразы дасягалі да 50 градусаў да мяне ў брыгаду прыслалі пажылога грузіна. На лесасецы разьвялі брыгадны агонь і грэліся. Кожны брыгаднік ведаў сваё месца каля вагню. Бліжэй да вогнішча сядзелі больш выдатныя члены брыгады, якія заслужылі сваёй працай больш спажываць цяпла. Менш працавітыя стаялі толькі ў трэцім радзе, куды агонь менш да-ставаў. І вось наш грузін, калі пачаў замярзаць, стаў хлопаць рукамі па бёдрах і плячах, а потым вытанцоўваць, прыгавор-ваючы «аса-аса». Я пашкадаваў яго — пасадзіў пагрэцца каля сябе. Хлопцы далі яму закурыць. Закурыўшы, ён расказаў нам наступнае: «Як я папаўся яшчэ ў Грузіі, мне трэба было адразу напісаць пісьмо дзядзьку. Ён са Сталіным быў у адной бандзе і асабіста блізка знаёмы зь ім». Я яго асадзіў: «Ты гэта кінь Сталіна абзываць бандытам. За такія словы цябе сашлюць яшчэ далей на поўнач». Грузін стараўся даказаць, што гэта праўда, пачаў мяне прасіць, каб якім-небудзь чынам адправіць дзядзьку ліст. Маўляў, дзядзька атрымае ліст, і яго тады вернуць зь лягера. Я сказаў яму прыгатаваць пісьмо. Ён неяк нацарапаў яго, мы паклалі ліст у паштовы канвэрт, напісалі па-расейску адрас. Канвэрт закруцілі ў чырвоную паперу, напісалі на ім просьбу, каб той, каму ён пападзе, апусьціў у бліжэйшую паштовую скрынку. Калі адгружалі маламерную руднічную стойку туды ліст і паклалі. Адказу чакалі 3 месяцы.

Аднойчы вясною грузіна выклікалі ва ўпраўленьне лягерным пунктам, а мяне абавязалі апрануць яго ва ўсё новае. На наступны дзень наш Кацо адправіўся ў Сухабязводнае, дзе атрымаў пашпарт і паехаў на радзіму. Пасьля гэтага я атрымаў ад яго тры пасылкі з каўказкімі фруктамі і ласункамі. Пра сябе ён нам нічога не пісаў.

З 1950 г. наш лягер перавялі на гаспадарчы разьлік. Накармілі досыта чорным хлебам, а вось з жанчынамі разлучылі, зрабілі мужчынскія і жаночыя лягерныя пункты.

(Працяг у наступным нумары)






У час, калі да БССР далучыліся заходнія землі нашай Радзімы, з Варшавы ўцякала ў Беласток шмат мастакоў яўрэйскай нацыянальнасьці. Першы час яны не маглі зразумець, чаму ў адной дзяржаве існуе два кіраўніцтва—Саветы і партыя. Потым яны сталі жаліцца, што па два тыдні ня бачаць цукру.Для мастакоў БССР гэта была не навіна.

Успамінаецца, як нашы людзі ехалі купляць шынкі ды кілбасы ў бліжэйшы да нас Ракаў. І як не маглі надзівіцца яны заможняму жыцьцю сялянаў панскай Польшчы, дзе кожны двор меў па дзьве і болей кароў, каня, некалькі галоў авечак, парсюкоў, статкі гусей, іншых птушак і жывёл, зусім наадварот нашай прапагандзе, што часта лаяла на польскі лад ў часопісах і газэтах. Мастакам з Польшчы не падабалася жыцьцё ў новых умовах у Беларусі. Але што рабіць, калі Польшча пад пратэктаратам вялікай Нямеччыны, у якой яўрэяў чакаюць крэматорыі. Частка з гэтых мастакоў засталася ў Беластоку, а другая перабралася ў Менск.

Былі сярод іх жывапісцы, графікі й майстры па металяпластыцы. Пачалі яны зарабляць грошы у розных напрамках ў Менскім мастацкім камбінаце, а ў Беластоку арганізавалі свой мастацкі камбінат, дырэктарам якога быў менскі фатограф, сябра Кампартыі Прывальскі.

(Пачатак у № 5-2(12)

Мастакі, які засталіся ў Менску, пачалі разам з намі рыхтавацца да першай дэкады літаратуры і мастацтва ў Маскве, якая павінна была адбыцца ў травені 1940 г. На выяўленчае мастацтва як і на нас, мастакоў ўсклалася вялікая задача: паказаць «багатую» гісторыю рэвалюцыйнага руху ў Беларусі ў яе разьвіцьці.

Сама назва выстаўкі «Ленін і Сталін — арганізатары Беларускай дзяржаўнасьці» адказвала на пытаньне, які зьмест або пад якім дэвізам павінна прахадзіць выстаўка.

Нам было даручэньне: абраць па сьпісу адну з тэмаў або этапаў рэвалюцыйнай дзейнасьці кампартыі бальшавікоў. Напрыклад, Арджанікідзе высупае ў памяшканьні дваранскага сходу ў Менску на II франтавым зьездзе. Менавіта гэты эпізод даручылі мне сябры камісіі пры разьмяркаваньні тэмаў між мастакамі. Назначэньне адбывалася, каб не было паўтораў, а таксама, каб не прамінуць важную тэму з тэматычнага сьпісу падзеяў на бела-рускай зямлі. Гэта быў рэдкі выпадак, калі партыя рабіла як-бы сацыяльны заказ мастакам савецкай Беларусі. Каштоўнасьцям зьместу адводзілася перавага над формай. Адным словам, мастацкі твор павінен быў працаваць на карысьць партыі, яе аўтарытэт і болей за ўсё на карысьць вялікага Сталіна. Да выстаўкі ў Маскве быў арганізаваны

мастацкі савет, як першая прыступка перад Выстаўкомам на чале якога стаяў II сакратар ЦК КПБ Кулагін. Сказаць па праўдзе, Кулагіна любілі як мастакі, так і артысты, бо ў яго была сьціпласьць і нейкая павага да творчай інтэлігенцыі, на якую глядзеў не агульна, а бачыў у кожным мастаку творцу, маючага свой твар, сваю манэру і погляды. Ён заўсёды лічыўся з тым, што мастакамі становяцца ня ўсе, а толькі адзінкі. Што датычыцца ведаў у мастацтве, дык Кулагін не сароміўся пытацца ў мастака Зайцава нейкай папулярнай літаратуры, каб быць гатовым разам з сябрамі Выстаўкома, мастакамі абмяркоўваць творы, а не толькі сачыць за палітычным бокам мастацкіх кампазыцыяў.

Паседжаньні Выстаўкома цягнуліся па пяць і болей гадзін запар. Калі ўлічыць ,што кожны эскіз праходзіў папярэдні агляд на мастацкім савеце, дзе старшынёю быў Зайцаў, дык можна ўявіць пачуцьці беднага мастака, які прайшоў такі кантроль, пачуў столькі заўваг (што ні сябра савета — свой погляд, свае парады).

Вось на мальбэрт ставіць эскіз мастак з Варшавы Цібер. Кулагін зьвяртаецца да Цібера і просіць яго растлумачыць зьмест эскіза. Цібер не находзіць слоў, маўляў, усё бачна. У турэмнай камэры адзін вязень, стоячы на плячах, другога глядзіць у ваконца з кратамі на волю — на турэмны двор

—Ну, скажыце, калі ласка, што ён убачыў праз краты? —пытаецца Кулагін.

—Убачыў жанчыну, якая прыбірае турэмны двор, —адказвае мастак. —Вязьні доўга не бачылі жанчын, а тут такі шчасьлівы выпадак, каб па чарзе паглядзець.

Кулагін на хвілінку задумваецца і прапануе назву будучай карціны «Чырвоная армія вызваляе палітычных вязьняў». Карціна з такой назвай мае ўжо не бытавы, а палітычны зьмест. Сёньня гэтая парада сьмеху вартая, а тады мы ўсе дзівіліся той находлівасьці старшыні Выстаўкома, які так лоўка даў назву, адпавядаючую часу вызваленьня Заходняй Беларусі.

Падрыхтоўка да дэкады ішла поўным ходам. За адзін год пасьля зьяднаньня з Заходняй Беларусьсю мастакі ў цяжкіх умовах павінны былі зрабіць па адной карціне зь гісторыі рэвалюцыйнага руху Беларусі. Зараз я ўспамінаю, як цяжка было даведацца, калі ў Беларусі наогул адбывалася рэвалюцыя. Ніхто ня мог назваць ні месяца, ні нават году, калі прыйшлі да ўлады Саветы. Гісторыкі ведалі, але ўдакладняць у іх ніхто не адважыўся. Пра тое, што існавала Беларуская Народная Рэспубліка ніхто ня мог адчыніць рота. З гэтай прычыны, мастакі не маглі ставарыць твор, які-б, мог з гістарычнага боку паказаць сапраўдную гісторыю дзяржаўнасьці Беларусі. Сама назва выстаўкі зводзіла ўсе да ілюстрацыі асобных фактаў, на чале якіх былі члены палітбюро, многія зь якіх ўжо нябожчыкі.Чапляліся за нікчэмныя факты, у якіх цяжка было зразумець значэньне асобы ў гісторыі рэвалюцыі ў Беларусі.

Напрыклад, Лазар Кагановіч абяззбройвае эшалон белапалякаў (мастак Гаўрыленка), ці «Таварыш Сталін у штабе Заходняга фронту» (мастак Красоўскі). На гэтай карціне акрамя Сталіна ёсць яшчэ Арджанікідзе, які зь іншымі вайскоўцамі сядзіць за сталом і водзіць пальцамі па геаграфічнай карце. Мая карціна мела назву «Выступленьне Арджанікідзе на II франтавым зьездзе Заходняга фронту».

Чытач можа запытацца, няўжо гэтае выступленьне было такім важным, што пасьля яго ўся ўлада перайшла Саветам? Не і яшчэ раз не. Толькі, як растлумачылі мне, удзел у прапагандзе й агітацыі Арджанікі-

дзе быў дастойным таго, каб пісаць карціну і плаціць грошы мастаку няведама за што.

Нашыя партыйныя кіраўнікі былі вельмі задаволеныя карцінаю Міколы Пашкевіча, які напісаў палатно «Таварыш Сталін прымае беларускіх партызан у штабе Заходняга фронту». Карціна нагадвала вядомы твор Власкеза «Здача ключоў Брэда». Таленавіты мастак Пашкевіч падаў Сталіна добрым гаспадаром, які ветліва запрашае да сябе жэстам рукі зь вядомай усяму сьвету ухмылкаю партызанаў, што валам валяць у невялікі пакой да яго. За гэтую карціну Пашквіч атрымаў ордэн Працоўнага Чырвонага Сьцягу. А тое, што Сталін ў штабе Заходняга фронту ніколі ня быў, было няістотна.

Пры адчыненьні ў Маскве нашай дэкаднай выстаўкі прысутнічала шмат карэспандэнтаў замежных краін. Мы з Давідовічам стаялі разам каля агульнай карціны «Сьвята ўраджаю», калі да нас падскочыў нейкі нямецкі карэспандэнт. Ён зь моцным нямецкім акцэнтам пачаў пытацца ў нас, ці ня маем мы недзе нейкіх іншых працаў акрамя гэтых афіцыйных сьяточных палотнаў. Ён ніяк ня мог назваць, што мае на ўвазе «нацюрморт з кветкамі», а толькі кляпаў: «Блюмен, блюмен». Сказаць шчыра, мы баяліся замежных карэспандэнтаў і стараліся хутчэй адчапіцца ад гэтага настойлівага немца. А чалавек шукаў сярод прапагандных палотнаў нешта мастацкае, каб адчуць, што ён на мастацкай выстаўцы, а не ў музэі рэвалюцыі.

З гэтай дэкады пачалася ў выяўленчым мастацтве пагоня за званьнямі, ордэнамі, якія давалі мастакам кірунак, як хутчэй апынуцца сярод вядучых. Усё было проста: трэба толькі пісаць карціны неадпавядаючыя гістарычнай праўдзе, аб тым, што жыць стала лепш, жыць стала весялей.

*Ужо значна пазьней, мабыць, у 1960 годзе ў мяне склаліся цяжкасьці з грашыма. Працы ня было. Здаецца, тады ішла барацьба празьмернасьцю ў архітэктуры ды і наогул у мастацтве. Памятаю, як спынілі ставіць помнікі Скарыне, Калініну і Мясьнікову ў Менску, калі ўжо былі мадэлі, па якіх можна было павялічыць помнікі ў бронзе. Я спытаўся ў сакратара партарганізацыі Саюза мастакоў скульптара Селіханава што рабіць. Той адказаў: «А ты напішы партрэт Сталіна». Што-ж парада была слушная, не ўпершыню мастакоў выручаў бацька ўсіх народаў. Яго пісалі, ляпілі партрэты ў неабмяжаванай колькасьці. Гэта было тое малярства, якім мы кармілі сябе, а тое сапраўднае мастацтва, да якога зрэдку зварачваліся, на вялікі жаль (не было часу і за яго ніхото не плаціў грошаў), заставалася часьцей нейкай незбыўшайся марай.*

Неўзабаве, Саюз мастакоў Беларусі пачаў рыхтаваць чарговую выстаўку. На гэты раз давалася магчымасьць тэму абраць па сваім жаданьні. Тэматычнага пляну ўжо ня было, але мастакі павінны былі не на словах, а ў эскізах паказаць сваю тэму перад выстаўкомам (Дагаворы заключаліся ужо пасьля). Ня ведаю, чаму кіраўніцтва па справах мастацтва пры саўнаркоме БССР адмовілася ад тэматычнай выстаўкі падобнай дэкаднай, якая мела посьпех, можа толькі ў кіраўнкоў партыйных. (Па сутнасьці гэтыя выстаўкі былі нецікавымі, немастацкімі. Краявіды, нацюрморты, партрэты, жанравыя кампазыцыі, не ўваходзілі ў склад тэматычных выставак. Брала верх заўсёды палітызацыя твору — кіраўніцтва партыі дамагалася праз мастацтва ўзьдзейнічаць на патрэбу дня, як ілюстрацыю чарговых лозунгаў. Так званае чыстае мастацтва лічылася шкодным перажыткам буржуазнага мінулага. З мастацтва выкачалі ўсю душу, зрабіўшы зь яго агульны плякат, дзе твар асобнага мастака губляўся у шэрасьці агульнай масы).

Краявіды, пейзажы нікога з кіраўнікоў не цікавілі, а таму ніхто не замаўляў дагавораў на такую прадуцыю, бо яна не адпавядала задачам часу, не раскрывала барацьбы супярэчнасьцей. Наш таленавіты пейзажыст Віталь Цьвірка мусіў пісаць карціны, дзе Ленін і Сталін сядзяць у альтанцы ў Горках або Сталін атрымаў ліст ад Леніна. Усё гэта было неўласьціва пэйзажысту, гэта быў прымус, за які, аднак, плацілі.

Для новай выстаўкі я выбраў тэму «Пакараньне Кастуся Каліноўскага». Мой Кастусь ідзе праз рынак у Вільні, па Лукішкінскай плошчы. Яго вядуць жандары сярод сялян, што прыехалі на кірмаш. Яны ведаюць Каліноўскага, спачуваюць яму, гэта бачна па тварах. Яны растпаюцца, даюць дарогу гэтаму эскорту, ідуць за ім да шыбеніцы. Кастусь ідзе з горда паднятаю галавой. Ён непахісны, суровы.Пэўна, што можна было паказаць Каліноўскага, які гаворыць сваю апошнюю прамову, стоячы на эшафоце, калі пятля над галавою, а жандары шчыльна стаяць цесным колам. Не, лепш даць той момант, калі ён сярод народу, непарыўна зь беларусамі. На палатне эшафота ня бачым. Ён за карцінаю.

Эскіз увогуле быў зроблены, але вось мне невядома, што вакол плошчы, ці ёсьць касьцёлы, ці бачна турма, якая вялічыня плошчы. Усё гэтае трэба бачыць самому і занатоўваць з натуры, каб быць бліжэй да рэчаіснасьці. Патрабавалася камандыроўка ў Вільню. Але туды патрэбны быў яшчэ і віза-дазвол. Бо ў Вільню зачыненыя межы і вольнага праезду няма.

Краўніцтва па справах мастацтва дало мне камандыроўку ў Вільню. Візу на паездку мусіла даваць НКУС. Нехта мне параіў паехаць у Беласток. Адтуль перакінуць ў Вільню абяцаў дырэктар мастацкага камбінату Прывальскі. Аднак ягоныя абяцанкі даць машыну зацягнуліся на два тыдні. За гэты час я скарыстаў шмат грошаў, бо жыў і харчаваўся ў самай лепшай гасьцініцы горада «Рыдз—Сміглы». Там знайшліся яшчэ два чалавекі, якія шукалі магчымасьці неяк апынуцца ў Вільні. Жанчына, надзвычай руховая, відаць ужо ня першы раз перасякала мяжу з гандлёваю мэтаю, узялася кіраваць апэрацыяй, сказаўшы, што мы павінны ехаць ў Баранавічы, а адтуль праз станцыю Беняконе, што на мяжы, мы дасягнем мэты. Так яно і адбылося, як раз зь першага на другое травеня 1941 году.

Ужо вечарэла, калі наш цягнік апынуўся ў Вільні. На вакзальнай плошчы я знайшоў міліцыянера і спытаўся ў яго, дзе ёсьць бліжэйшая гасьцініца. Міліцыянер не разумеў маёй гаворкі, таксама як і я не разумеў, што ён гаворыць. Нарэшце, я знайшоў нейкую гасьцініцу. Зьмясьцілі мяне побач з кухняй, дзе з раніцы грымелі посудам, громка размаўлялі.Кожную ноч два міліцыянеры з электрычным ліхтарыкам правяралі мае дакумэнты, кожны раз іншыя, кожны раз у гадзіне, тры ночы. Мне гэта было не зразумела. Ніякай павагі і нават элементарнай ветлівасьці да мяне.

Шмат чаго дзіўнага пабачыў я ў Вільні. Па гораду ходзяць манашкі, у чорным адзеньні зь вялікімі белымі капялюшамі, неяк закручанымі ў кутах. Каля Вострай брамы кожны дзень на каленях стаяць людзі, моляцца пасярод вуліцы. У горадзе шмат цэркваў, касьцёлаў, ёсьць сінагогі, мечэці, і ўсе храмы поўны вернікамі. Людзі стаяць каля ўваходу ў храм Божы, і нават ня ў сьвяточны дзень, а звычайны. Горад на дзіва чысты, на вуліцах шмат людзей, чулася пераважна польская мова, але назвы вуліц на літувіскай. Усё для мяне тут нова.

У Вільні мне трэба было перадаць 200 рублёў сястры менскага мастака Мільчына

Ісака. Ён скарыстаў мяне як кур'ера, бо пошта не прымала перасылку савецкіх грошаў па віленскіх адрасах. Прынялі мяне вельмі ветліва. А калі мне трэба было прайсьціся па гораду і зрабіць закупкі на апошнія грошы, то маім спадарожнікам згадзіўся стаць пляменьнік Мільчына, малады, але вельмі дасьціпны хлапец. Вось тады я і пашкадаваў, што патраціўся ў Беластоку. Вочы разьбегліся, калі ўбачыў столькі патрэбных рэчаў, на якіх не было ўжо грошаў. Ніякай чаргі я нідзе ня бачыў, як ня бачыў на вуліцах ніводнага пьянага чалавека. Людзі шлі зь нейкай павагай адзін да аднаго, знаёмыя віталіся, здымаючы капялюшы. Так вось яна якая Вільня, былая сталіца нашай дзяржавы, радзіма майго старэйшага брата Валянтына і месца, дзе наш бацька праходзіў вайсковую службу, быў пісарам.

Калі настаў час займацца сваімі справамі, то перш-наперш я расшукаў той музэй, што славіўся на ўсю Беларусь, заснавальнікам якога быў Іван Луцкевіч. Але тое, што давялося пабачыць мне, была толькі можа сотая частка музэя.

Зараз я бачу адну залю, дзе ўсяго было навалам. Пэўна, больш з рэчаў матэрыяльнай культуры беларусаў—кросны, пралкі, маслабойкі, сохі ды граблі, бораны ды разьбічы, драўляны посуд, ганчарныя вырабы,розныя ступы, вопратка, нацыянальныя строі беларусаў, лапці ды горы посьцілак , дываны і шмат чаго іншага. Але вось убачыць слуцкія паясы ды мэталічныя вайсковыя рэчы, грошы розных часоў мне так і не прыйшлося. Я ўжо не кажу пра вырабы з срэбра ці залатыя мастацкія рэчы. Усё, што было больш каштоўным, захапілі літоўцы. Захапілі яны і тое памяшканьне, дзе знаходзіўся раней музэй. А замест яго далі вось гэтую залю, у якой яшчэ не пасьпелі зрабіць экспазыцыі.

Яшчэ раней я ведаў, што ў Вільні жыве беларускі мастак Пётра Сяргіевіч і што ён працуе ў гэтым краязнаўчым музэі. Вось, падумаў я, з каго трэба было пачаць. Я таксама ведаў, што Сяргіевіч ужо меў два варыянты карцін на тэму Кастуся Каліноўскага.

(Працяг у наступным нумары)




Пётр Сяргіевіч.
Вокладка паэмы Міхася Машары »Сьмерць Кастуся Каліноўскага«.
1934 год.

# Віленскія беларусы расказваюць...



Сьвятлана Белая

Да др. Вітаўта Тумаша я дабіралася доўга і з прыгодамі. Гаваркі шафёр, мусіць трэці раз выехаў на шырокую, поўную рэклямных вагней вуліцу начнога Нью Ёрку, у пошуках невялічкай і малавядомай яму Талер стрыт.

—Можа адложыце паездку на заўтра? — нарэшце, прапанаваў ён.— Паедзем да іншых вашых знаёмых.

Пераносіць паездку ніяк не выпадала. Доктар чакаў мяне з раніцы. Але зьмяненьні ў маршруце аўтобуса Кліўленд-Нью-Ёрк прымусілі мяне спазьніцца на дорбыя пару гадзінаў.

Нарэшце, мы знайшлі ягоны дом. Высокі трохпавярховы, заціснуты такім-ж самымі хатамі—блізьнятамі. Дом быццам-бы імкнуўся вырвацца на свежае паветра з гэтага неўгамоннага ні днём, ні ноччу Бронкса.

Гаспадар выйшаў адразу на мой голас. Тады гэта мяне не зьдзівіла, бо я яшчэ ня ведала, што спусьціцца зь яго пакоя пад стольлю па вузкай крутой лесьвіцы, займае нямала часу. Доктар ішоў павольна і паважна, горда адкінуўшы галаву. Ішоў з надзвычайна прамой спіной, якая амаль не сустракаецца ў людзей цывільных, што набліжаюцца да свайго 80-гадовага юбілею. Твар яго здаваўся крышку суровым. Такія, падумалася мне, малявалі раней на старажытных шляхецкіх партрэтах. Так вось ён які, Сымон Брага, дасьледчык і прапагандыст творчасьці вялікага Скарыны, ў мінулым дырэктар Беларускага Інстытута Літаратуры і Мастацтва, рэдактар «Запісаў».

Пакуль дачка Яраслава з Валяй Пархоменка ставілі на стол, мы, зручна уладкаваўшыся ў крэслах вялі размову. Спачатку пра Віленскую Беларускую гімназію і Віленскі ўнівэрсытэт, пасьля перайшлі да ўспамінаў аб Ларысе Геніюш, вершы якой ён падрыхтоўваў да друку ў Бэрліне, у беларускай газэце «Раніца». За сталом доктар таксама не спыняў гаворкі. Жартаваў, расказваў старажытныя віленскія анекдоты. Бяседа скончылася далёка за поўнач. У той дзень я так і не пабачыла вялікай бібліятэкі доктара Тумаша, ў якой на самым бачным месьце вясіць каляровы вялікі партрэт Францішка Скары-

ны, выкананы мастаком Пётрам Мірановічам. Партрэтаў такіх не пабачыш у сучасным мастацтве. Няма стракатага фону за спіною Скарыны. Няма сьветлых колераў. Але твар Скарыны жывейшы, чым у жывых і такі сучасны, блізкі, нягледзячы на старажытны строй, у якім вялікі палачанін апрануты.

Не разглядзела я тады і шматлікія каляровыя партрэты, краявіды, нацюрморты, якія малявала калісьці жонка др. Тумаша, адна, як мне казалі, з найпрыгажэйшых студэнтак мэдычнага факультэту былога Віленскага ўнівэрсытэту. Карціны, як памяць аб ёй, упрыгожваюць кватэру, але вісяць без асобага парадку. Партрэты дзяцей ўперамешку з кветкамі сланечніка, краявідамі беларускай прыроды. Усе гэтыя творы, быццам-бы намаляваныя учора, здавалася, ящчэ выпраменьвалі пах сьвежых фарбаў.

Не дакранулася і да піяніна, на якім калісьці гралі дзеці доктара, а зараз практыкуецца Волечка Казак. Усё гэтае прыйшло пазьней, як і разуменьне доктара Тумаша, чалавека, зь няпростым чалавечым лёсам і адсюль характарам...

Пры зычэньні добрай ночы, доктар з усьмешкай у голасе, але захоўваючы крыху суровы выгляд спытаўся ў мяне:

— Дык калі Вы думаеце пачаць мучыць мяне зь інтэрвью?

—Заўтра, адразу пасьля сьняданьня, — у тон яму адказала я.

—Вось-жа гэтыя журналісты, — толькі і сказаў доктар і ўпершыню за весь вечар,як мне здалося, па-юнацку ўсьміхнуўся.

Так, 22 кастрычніка 1991 года і пачаліся «мучэньні» др. Тумаша.Частку зь іх мы прапануем Вашай увазе .



На здымку зьлева направа: Антон Шукелойц, Алесь Казак, Валентына Пархоменка, др. Вітаўт Тумаш
Фота аўтара, 1991 г.

# Беларуская Віленская гімназія

 Вітаўт Тумаш 

Гімназіі ў Вільні былі двух тыпаў: гуманістычнага або гуманітарнага, дзе перавагу аддавалі вывучэньню гуманістычных навукаў, і клясічнага, дзе аснову праграмы складалі латынь і грэцкая мова.

Першая Віленская Беларуская гімназія была гуманістычнага тыпу. (На жаль, задума аб стварэньні Другой Беларускай гімназіі так і ня зьдзейсьнілася, і паступова назоў «Першая Віленская Беларуская гімназія» ператварыўся ў Віленская Беларуская гімназія—С.Б.) Яна знаходзілася ў Базыльянскіх мурох, на Вострабрамскай вуліцы № 9.

Спачатку Віленская Беларуская гімназія, як і многія прыватныя гімназіі, ня мела дзяржаўных правоў. Гэта азначала, што атэстат сталасьці, выдадзены гімназісту пры яе заканчэньні, не прызнаваўся пры паступленьні ва ўнівэрсытэты. Для гэтага трэба было экстэрнам, пры дзяржаўнай камісіі, здаваць спэцыяльныя экзамэны за ўвесь гімназійны курс, каб даказаць, што навучэнец мае пэўны багаж ведаў. Калі міністэрства прызнавала веды гімназіста, ён меў права паступаць ва ўсе вучэбныя ўстановы Польшчы за выняткам асобных факультэтаў, у тым ліку і на мэдыцынскі.

Каб паступіць на клясычныя факультэты ўнівэрсытэтаў трэба было канчаць клясычную гімназію, бо ў ёй даваліся больш грунтоўныя веды па грэцкай і латынскай мовах. У Польшчы клясычных гімазіяў была пераважная большасьць. Тое тычылася і Віленчшчыны, якая Польшчай ў той час называлася «Litva Srodkowa».

Праз усе гады свайго існаваньня Віленская Беларуская гімназія старалася матэрыяльна утрымацца і колькасна разьвівацца. Зь цягам часу яна набыла правы дзяржаўнай гімназіі.

У Віленскай Беларускай гімназіі вучыліся вучні зь усіх раёнаў Віленшчыны. Пры гімназіі быў інтэрнат, у якім жылі тыя, хто прыехаў зь іншых мясьцін.

Я паступіў у другі кляс Віленскай Беларускай гімназіі ў 1923 годзе. Спачатку жыў у інтэрнаце, потым, калі стаў вучыцца ў старэйшых клясах, пайшоў на прыватную кватэру. У інтэрнаце жыло прыблізна 50 вучняў.

У Віленскай Беларускай гімназіі вучыліся разам дзяўчаты і хлопцы. (Пераважна, у Польшчы былі асобныя мужчынскія і жаночыя гімназіі). У гімназістаў нашай гімназіі не было нейкіх адмысловых знакаў адрозьненьня ад гімназістаў іншых гімназіяў. Выключэньнем былі шапкі. Іх колер, фасон на працягу існаваньня гімназіі мяняліся не адзін раз. У маю бытнасьць шапкі былі шэрага колеру з казырком. На фронце шапкі быў кут, створаны двума бел-чырвона-белымі сьцяжкамі. На прастакутніку былі ініцыялы гімназіі: ВБГ. Дзяўчаты таксама мелі шапкі, але без казыркоў. Шапкі ня былі моднымі ў той час. Таму гімназісткі амаль не насілі іх. У дзяўчат былі свае ўборнікі. Была так званая свабода ў адзеньні.

Наогул, ніякай муштры ў гімназіі ня было. За выключэньнем вурокаў гімнастыкі, дзе мы рабілі спэцыяльныя праграмы для выступленьняў. Пасьля доўгіх рэпэтыцыяў адбываліся акрабатычныя паказы, якія зьбіралі нямала гледачоў.

У гімназіі быў хор, якім адзін час кіраваў Рыгор Шырма. Мелі мы і свой тэатр, у якім ставілі беларускія п'есы. У гімназісцкім тэатры гралі ня толькі гімназісты, але і віленчукі. Рабілі мы пастаноўкі п'ес вядомага драматурга, аўтара шматлікіх цудоўных п'есаў, такіх як «На Антокалі», «Страхі жыцьця», «Бутрым Няміра», «На вёсцы», «Калісь», «Манька», «Базылішак», «Дзядзька Якуб», «Заручаны Паўлінкі», «Птушка шчасьця», «Няскончаная драма», «Дрыгва» й ішн. Франьцішака Аляхновіча. Ён у той час жыў у Вільні і часта праводзіў рэпэтыцыі разам з намі. Ставілі мы п'есу «Бутрым Няміра», у якой граў сам аўтар. Зрабілі прыгожую пастаноўку «Страхі жыцьця». Аляхновіч таксама прымаў удзел у гэтай п'есе. Асабліва запомнілася мне «Дрыгва». У ёй драматург паказаў людзей, якія апынуліся на дне грамадзтва. Памятаю такую сцэну. За чаркай гарэлкі сядзяць у карчме два героі. Жыцьцё іх шло крыва. Шмат цяжкасьцей выпала на іхнюю долю. Вось яны сядзяць і ўспамінаюць усе перапяціі жыцьця. Адзін так маляўніча апісвае іх, што другі проста радзіць яму: «Так ты вазьмі і запішы ўсё гэтае». А той, выпіўшы, чарку, адказвае: «Ты ведаеш, я ў канцылярыі пісаў ўсё гэтае і нічога не выйшла».

Але Аляхновіч ня доўга быў з намі. Напрыканцы 1926 года ён пераехаў у Савецкую Беларусь, прыняў савецкае грамадзянства, праз некалькі дзён быў арыштаваны ГПУ і высланы на Салаўкі. Аляхновіч выжыў толькі таму, што ў выніку дамовы паміж польскімі і савецкімі ўладамі яго абмянялі на Браніслава Тарашкевіча, які быў схоплены палякамі, і сядзеў у польскай турме. У турме, Тарашкевіч займаўся справамі, далёкімі ад палітыкі. Перакладаў «Ільыяду» Гамэра і «Пана Тадывуша» Адама Міцкевіча. Браніслаў Тарашкевіч меў клясычную адукацыю, добра ведаў латынь, грэцкі. У той час была вельмі добра распрацаваная сялянская паэзія, сялянская мова, а пераклады з грэцкай было цяжка рабіць, бо ня было патрэбнай тэрміналёгіі, лексычнага запасу. Але Тарашкевіч быў упартым чалавекам.

Абмен вязьнямі адбыўся 6 верасьня 1933 году.

Вось як апісвае яго сам Аляхновіч.

*Надвор'е агіднае. Віхор гудзе ў недалёкім лесе і гоніць хмары, якія лятуць хуткахутка, і грамадзяцца адна на адну, нібыта хочуць хутчэй праляцець над савецкай памежнай брамай, што дзеліць два сьветы. Углядаюся ў надпіс «Социализм сотрет все границы», які бачыў гэтак даўно ў лістападзе 1926 году, калі ехаў у савецкае гаспадарства зь верай у магчымасьць беларускае культурнае працы там, у БССР. Тады гэтаксама была восень, але я ехаў з надзеяй на вясну ў сэрцы. Сягоньня варочаюся, бадзяга, у вастрожным бушлаце, працьвярэзіўшыся на Салаўках, шчасьлівы, што праз мамэнт нага мая пераступіць мяжу краіны «будаўніцтва сацыялізму» ў адваротным кірунку. І сёньня восень, але ў маёй душы зацьвітае нейкая неапісальная радасьць...*

*Я ўжо адрозьніваў твары людзей, якія да нас падыходзілі. Наперадзе йшоў нейкі высокі мужчына ў цывільнай вопратцы. За ім — з двума паліцыянтамі па бакох — той, каго польскі ўрад абменьваў на мяне, — Браніслаў Тарашкевіч. У гэты мамэнт я адчуў ня толькі духовы, але й фізычны кантраст паміж намі. Вязень «капіталістычнага гаспадарства» меў на сабе прыстойны фільцовы капялюш, добра скроенае восеньскае паліто, безаганна вычышчаныя боты... Савецкі вязень ішоў у старэцкім падзёртым кажуху на салавецкім «бушлаце»...*

*Ён ішоў зь нявыразнай усьмешкай на твары , а я, гэтулькі гадоў ня бачыўшы яго, з зацікаўленьнем ўглядаўся на гэтага чалавека, які, хоць у добрай веры, усё-ж гэтулькі зламаў чалавечых жыцьцяў, кірыючы вочы сваіх землякоў на міраж за памежнымі слупамі...*

*Цэрэмонія абмену. Аддача чэсьці, паклон капялюшом, пацісканьне рук, падпісваньне акту абмену .І мы, колішнія прыяцелі, а цяпер — чужыя сабе людзі, шляхі якіх разыходзяцца ў процілежныя бакі, падалі адзін аднаму рукі. Звычайныя вастрожныя камплімэнты: «Добра выглядаеш», «Ты таксама», «Дзякуй, але сумняваюся»...*

*Пасьля — колькі горкіх слоў пра манлівыя міражы, якія разьвеяліся, а ў канцы — апошні халодны поціск рук.*

*—Бывай здарой!*

*Мы разыйшліся ў розныя бакі.*

*Ён з вастрогу пойдзе туды, дзе ўся вялізарная краіна ёсьць адзін вялікі вастрог, дзе думка чалавечая сьцісьнена ў абцугох савецкага абсурду, дзе ня толькі дзеяць і гавараыць, але й думаць і дыхаць трэба паводле аднаго, для ўсіх абавязковага шаблёну. Ён пойдзе ў краіну белага нявольніцтва, голаду, нэндзы, людаедзтва, — а я кіруюся на Захад, да «капіталістычных» гаспадарстваў, дзе буду прынамся спаць спакойна, ведаючы, што ўначы госьці з ГПУ не пастукаюцца да мае кватэры....*

*(Ф.Аляхновіч. «У капцюрах ГПУ»)*

Аляхновіч жыў у Вільні, пад час вайны ў Менску. Тарашкевіч так і загінуў у капцюрах ГПУ. Быў ён вядомым грамадзкім дзеячом. Нейкі час дырэктарам Віленскай Беларускай гімназіі. (Было гэта нядоўга. Тарашкевіч прыступіў да гэтай пасады пасьля М. Кахановіча у 1922 г., але у сувязі з выбраньнем яго ў гэтым-жа годзе ў Польскі сойм, дзе ён стаў старшынёю Беларускага клюбу, сваю дырэктарскую пасаду перадаў інжынеру Антону Нэканду Трэпку. — С.Б.)

Вучні Віленскай Беларускай гімназіі былі ў асноўным сялянскага паходжаньня. Інтэлігенцыі было зусім мала, толькі дзеці настаўнікаў. Ніякіх палякаў у нас не было. Толькі беларусы, а яшчэ шмат жыдоў. У гімназіі вучылася каля 200 чалавек, сярод іх 40 жыдоў. Як я зразумеў, усе яны былі зь сем'яў гандляроў. Іхнія бацькі ўмелі добра прытасоўвацца да ўладаў. Калі быў расейскі ўрад, і ім было патрэбна ведаць расейскую мову, то яны аддавалі сваіх дзяцей у беларускую гімназію, замест польскай. Калі ў апошнія гады сытуацыя зьмянілася і павароту да расейшчыны не чакалася, яны пачалі аддаваць дзяцей у польскія вучэбныя ўстановы. У Віленскай Беларускай гімназіі засталіся толькі адзінкі, якія былі з моцным беларускім настроем. Размаўлялі яны на добрай беларускай мове і пачуваліся патрыётамі Беларусі.

Усе прадметы ў гімназіі выкладаліся толькі па-беларуску. Нават замежная мова і латынь тлумачыліся на ёй. Гэта было няпроста, бо беларускіх падручнікаў амаль што не было.

Асноўнымі падручнікамі, па якіх вучыліся вучні Беларускай Віленскай гімназіі, былі «Беларуская Граматыка для школаў» Тарашкевіча, (1918 г.), «Гісторыя беларускай літаратуры» Гарэцкага, (1920 г.) «Геаграфія Беларусі» (1919 г.) Смоліча.

(Працяг у наступным нумары)



## Паэзія

Масей Сяднёў

Музыка — кажуць— гэта тое, чаго нельга выказаць словам. Паэзія, аднак, спрабуе, хоць і непасьпяхова, спаборнічаць з музыкай, спрабуе пры дапамозе слова выказаць нявыказнае, спрабуе, як і музыка, спасьцігнуць, адтварыць шматстайнасьць душы, усю ейную супярэчлівую прыроду, ейную канфліктнасьць і драму. У беларускай паэзіі толькі паэзія Максіма Багдановіча (уключна зь ягонымі перакладамі) дасьледавала душэўны вопыт чалавека, заглядала ў непасьцігнае, падсьведамае, даставала для нас пэрлінкі з артэзіянскай студні душы і такім парадкам узбагачала нас эмацыянальна і духоўна. Сучасная беларуская паэзія не займаецца ці бадай не займаецца гэтым. Душэўная дзейнасьць чалавека, душэўная драма — гэта як бы забароненая для яе зона. Сучаснаму паэту дастаткова толькі задэкляраваць сваю гэтак званую грамадзянскую пазыцыю, не надта турбуючыся мастацкім уцелаўленьнем гэтай грамадзянскай пазыцыі. У беларускай паэзіі адсутнічае магутнае «я» паэта. Дзеля гэтага сучасную беларускую паэзію можна назваць безасабовай паэзіяй. У ёй адсутнічае музыка душы. Я не гавару тут пра адзінкавых паэтаў, што твораць гэтую музыку душы, заглядаюць у адвечнае ў ёй. Але гэтыя адзінкавыя творцы яшчэ не ствараюць клімату ў нашай паэзіі. Яны толькі рыхтуюць грунт для сапраўднай паэзіі і ў гэтым іх гістарычная місія.

## О паэзіі

Масея Сяднёва

*Прыемную навіну атрымалі мы нядаўна з Бацькаўшчыны. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга Масея Сяднёва пад назовам «Патушаныя зоры». У кнігу ўвайшлі выбраныя вершы паэта і раман «І той дзень надыйшоў».*

*Рэдакцыя часопіса «Полацак» сардэчна віншуе паэта Масея Сяднёва з выхадам ягонай кнігі, першай кнігі беларускай эміграцыі, выдадзенай на Бацькаўшчыне Дзяржаўным выдавецтвам. Жадаем Вам творчых посьпехаў ды спадзяемся, што наступныя Вашыя кнігі, будуць таксама перавыдадзеныя ў Беларусі.*

*Падаем аднастрофны верш Масея Сяднёва, напісаны ім у сувязі з выхадам кнігі і прысьвечаны дырэктару выдавецтва спадару Андраюку. У вершы алюзія на вядомыя радкі М.Багдановіча: «Я не самотны, я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты.»*

*Тужыў я па Радзіме—сваім краю—*
*Не шкадаваў я для яе свайго радка.*
*І вось я не самотны ўжо, я кнігу маю*
*З друкарні Спадара Андраюка.*



Вольга Куртаніч

## Каралі



Ракавікі, зерне...О, каралі,
Здольныя яшчэ дапамагці!
Варта вам на міг які сыйсьці—
І загіне тое, што ядналі...

Дзе на нітцы пацеркі самлелі
Ад гарончкі цела, ад зьліцьця,—
Сонца Дух пазначыў крэйдай белай
След пакуты ў кола небыцьця.

Не пазбавіць светлай рысы мора,
Не ўратуе шыю сонцапал.
Частку цела пацеркам аддам
Як жанчына, што хавае сорам.

Хай яшчэ ня час, яшчэ зарана!
Хтось прабачыць, грэшную, мяне,
Што калісьці захлыска спаўе
Нечакана,
    прагна,
        апантана...
Пачакайце...ракавінкі, зерне...
Здольныя вы мне дапамагці—
Бо вяроўцы месца не знайсьці,
Покуль вы злучоны ніткай вернай...



***

Маўклівы сон бясконцай летаргіі
Спакойна хвілю з хвіляю злучае.
І ў гэтым неапраўданым маўчаньні
Зазвоняць гукі першай літургіі.
    ...Над берагам паўднёвым рэюць чайкі...
У вочы зацячэ халодны промень
Той зоркі, што япошнімі начамі
Мой небасхіл пакутліва страчае.
Было даўно... і я яе не помню.
    ...Над берагам паўднёвым рэюць чайкі...

Адсутнасьцю астудзіш сквар пачуцьцяў.
Злучоны будуць помарак з адчаем.
Адзінае, што мы не прычакаем:
Любошчаў прагных...
зьненавідна-чуйных....
...Над берагам паўднёвым рэюць чайкі.
Яны тапелец зараней страчаюць

***

І вось той дзень —
нішчымны,
богам кляты,
Калі і келіх-бразь!
І стогн—няўсьцерп!
О, зразумей! Зірні!—
за даляглядам
На сходзе сонца—
мой таёмны герб.
І стома —госьць,
і муж мой —госьць няісны,
І воля — госьць,
і лёс -як госьць -сляпак.
І радасьці сустрэчы лучна-чыстай
Ім з майго боку
не счакацьме знак.
Яны адны... і правяць мной....
Астыла!
Нудзьга і сум —
іх нематлівы плён.
У павучэньні, сварках
дом няжылы.
І не мільгне хадыка
паўз вакон.
А я шчэ ёсьць:
змагаюся няўцямна.
Ды не спявацьму больш,
як шчыры птах.
Падлога, стол—
У аркушах прывабных...
Зайдзі праз год
і зьдьмі з паперын прах...

# Дalёкае і блізкае

## Беларусы Аргентыны

Кастусь Мерляк

Важнымі момантамі сьвяткаваньня 25 Сакавіка 1950 г. былі: рэфэрат К.Мерляка пра жыцьцё й дзейнасьць генэрала Сан Мартына ў гішпанскай мове і рэфэрат Г.Юзэфовіча пра 25 сакавіка па-беларуску. Мастацкая частка складалася з дэклямацыяў патрыятычных вершаў у беларускай і гішпанскай мовах. Выступілі В. і Н.Фаміны, Н.Нядзелька і Г.Юзэфовіч. Прыгожа сьпявалі дуэтамі А.Грынкевіч і Л. Дземідзенка, В. і М. Бычкоўскія. Але асаблівую ўвагу заслугоўвала аргентынская артыстка Нэлі Гомэз, якая прасьпявала дзьве песьні: адну пагішпанску, а другую «На выгнаньні» пабеларуску. Пра адзначэньне Дня незалежнасьці Беларусі былі памешчэныя артыкулы і зацемкі ў 4-х аргентынскіх газэтах.

У міжчасе бібліятэка і канцылярыя ЗБА памалу была ўладжаная. Сп. Сымон Камар падараваў у сьвятліцу радыёпатэфон для беларускае музыкі. У адным з пакояў быў уладжаны бар, які працаваў бяз прадаўшчыка. Адказны за бар сябра раз у тыдзень забіраў грошы, рабіў новыя закупы, а рэшту здаваў у касу арганізацыі. У сьвятліцы часта адбываліся сяброўскія сборкі, на якіх абгаварваліся розныя прыватныя й агульнага характару справы.

Уладкавацца на кватэру пасьля вайны было вельмі цяжка. Наплыў эмігрантаў з Эўропы й перасяленьне мясцовага жыхарства з аддалённых пасёлкаў у горад спрычыніліся да кватэрнага крызысу. Каб аблегчыць становішча з кватэрамі правінцыяльныя ўлады адпусьцілі вялікі кавалак зямлі па-за межамі фэдэральнае сталіцы Буэнос Айрэс каля Мілітарнае фабрыкі, адкуль можна было браць ваду, ды абʼявілі: «Калі ласка, будуйцеся, зямля даецца вам бясплатна».

Эміграны й мясцовае насельніцтва кінуліся будаваць сабе хаты. Так як ня было ніякага пляну распадзелу пляцоў, дык кожны займаў кавалак зямлі й пачынаў будавацца. Мясцовыя рабілі свае хаты вельмі хутка. Яны прывозілі бляху, ставілі сьцены, накрывалі іх, а замест дзьвярэй ужывалі занавес з тканага матэрыялу. Эміграны рабілі інакш: зямлю мясілі з саломай і засушвалі у форме пустакоў. Калі сьцены былі гатовыя, то іх тынкавалі, каб дождж не размываў. Іхнія хаты мелі стрэхі, вокны й дзьверы, яны выглядалі даволі ўнушальна.

Будова ішла хуткім тэмпам, так што за кароткі час уся зямля была занятая й для новапрыбыўшых ня было месца, дзе будавцца. У такім выпадку, новапрыбыўшыя, асабліва «гаўчо» прывозілі матарыял і пачыналі будаваць сабе хату на вольным месцы ранейшага пасяленца. Нярэдка здаралася, што недалёка ад увахода ў хату стаяла будка суседа, якая служыла за прыбіральню. З часам стварыўся такі лябірынт, што цяжка было дайсьці да свае хаты. Аднак было характэрным тое, што людзкіх канфліктаў і праступстваў не было, толькі ў нядзелю можна было спаткаць сям-там падпіўшага чалавека. Многія нова-

(Працяг. Пачатак у № 1(11)-2(12))

прыбыўшыя беларусы скарысталі гэтую нагоду і пабудавалі свае хаты. Іншыя імкнуліся прыдбаць кавалак зямлі з мэтай будаваць сапраўдны дом.

З гутарак між собку сябры ЗБА даведваліся, дзе хто працуе ды якія мае заробкі. У большай колькасьці беларусы працавалі на будове. Нават паўстала свая кампанія, якая брала кантракты ды самастойна будавала шкілеты дамоў з жалезабэтону. Некаторыя працавалі ў тэкстыльнай і мясной індустрыі, а маладыя жанчыны ў швэйных майстэрнях.

З пераходм у сваю кватэру Ўправа ЗБА пачала распаўсюджваць беларускую прэсу, якую атрымоўвала з Эўропы: «Бацькаўшчыну», «Божым Шляхам», «Зьніч», «За волю», «На шляху» ды іншыя выданьні, якія прысылаліся.

У 1950 годзе ЗБА зарэгістравала прыезд сям'яў А.Гімпеля, М.Лазюка й іншых. У сакавіку вярнуўся назад у Англію пратаярэй Мікай Макарэвіч з матушкаю. Загадам іміграцыйнай дырэкцыі быў выселены з Аргентыны япіскап Панцелейман з Расейскае Зарубежнае Царквы, а пару месяцаў пазьней—Саланевіч, знаны расейскі манархіст, які выдаваў сваю манархісцкую газэту ў Буэнос Айрэс.

Яшчэ ў 1950 годзе сталася дзьве цікавыя падзеі. Ігар Гузенка, працаўнік савецкай амбасады ў Канадзе, захапіўшы шпіёнскія дакумэнты, перадаў іх канадзкай паліцыі, а сам застаўся жыць у Канадзе. Ён прыехаў у Аргентыну, каб зрабіць канфэрэнцыю ды выступіць з прамовамі на сходах адносна Савецкай шпіёнскай дзейнасьці. Улады гэтага зрабіць яму не дазволілі, і ён вярнуўся назад у Канаду. Другая падзея была тая, што Аргентынскі ўрад разьвязаў 32 родныя арганізацыі і палітычныя партыі.

1951 год распачаўся традыцыйным Калядным сьвятам, на якое сабралася нямалая колькасьць беларусаў з гораду і ваколіцаў Буэнос Айрэс. Увагу гэтага вечара заслугоўваў канцэрт з багатай праграмай. Упершыню выступіў хор ЗБА пад кіраўніцтвам І. Гейхроха. Былі дэклямацыі Н.Нядзелькі, дуэты В. і М. Бычкоўскіх, Соні Хрось і А.Грынкевіча пад акампанімэнт З. Лойкі і Р. Кужаля.

33-я угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі абыходзіліся у горадзе Беразатэгі і ў Буэнос Айрэс.

У Беразатэгі на 25 сакавіка ў праваслаўнай царкве быў адслужаны а. Васілём Вячоркам малебен за беларускі народ. Пасьля на сяброўскім прыняцьці быў прачытаны рэфэрат аб гістарычных падзеях ды Акце абвяшчэньня незалежнасьці БНР.

Сьвяткаваньне ў Буэнос Айрэс адбылося 1 красавіка 1951 года. Служба божая адбылася ў Украінскй Праваслаўнай царкве, а ўрачыстая акадэія ў Летувіскім клюбе. На акадэміі была прынятая рэзалюцыя адносна генацыду беларускага народу, які праводзіўся савецкім урадам у Беларусі. Разам з кніжкаю М.Абрамчыка «Я абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу» рэзалюцыя была высланая да Аб' едnаных Нацыяў у Нью Ёрк, на рукі генэральнага сакратара Трыгве Ліе .

20 травеня 1951 году адбыўся 4-ты агульны сход ЗБА, на якім была выбраная новая ўправа ў наступным складзе: Уладзімір Другавец—старшыня, Аляксандр Літвінскі—заступнік старшыні, Лявон Петраш —сакратар, Васіль Казлоўскі—скарбнік і Мікалай Ланкевіч — сябра ўправы.

Із справаздачы старшніні К.Мерляка за тры гады дзейнасьці, якім закончыўся арганізацыйны пэрыяд, прысутныя даведаліся што беларуская грамадзкая арганізацыя

нацыянальнага характару ЗБА была закладзеная 4 красавіка 1948 году з мэтамі:

Памагаць нашым суродзічам эміграваць з Эўропы ў Аргентыну.

Памагаць уладкавацца прыехаўшым ў Аргентыну на працу.

Арганізаваць беларускую калёнію для грамадзка-культурнага жыцьця, каб забясьпечыць абарону сваіх правоў і ахову нацыянальнае культуры.

Мець беларускае нацыянальнае прадстаўніцтва ў Аргентыне.

—Гэтыя даручэньні,—адзначыў К.Мерляк,—адпавядаюць кожнаму беларусу, незалежна вайсковец ён ці цывільны, бяз розьніцы партыйнага погляду, рэлігіі, часу прабываньня ў Аргентыне, калі ён сапраўды пачуваецца сынам беларускае зямлі.

Далей дакладчык коратка спыніўся, аб тым што зроблена.

—Атрымана 98 дазволаў на ўезд у Аргентыну зь Нямеччыны. Зложана просьба на дазвол на 300 асобаў эміграваць у Аргентыну зь Нямеччыны й Аўстрыі, але, на жаль, груповыя візы былі ўстрыманыя Урадам. Пра дапамогу прыбыўшым сюды й нямногім ў Нямеччыне асобам вам добра ведама...

Грамадзкая дзейнасьць праявілася ў штогоднім сьвяткаваньні Калядаў і сустрэчы новага году, угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, сяброўскіх вечарынках, зборак і культурных вечароў. Распаўсюджана толькі ў гэтым годзе больш за 1000 экзэмпляраў беларускае прэсы. У бібліятэку сабрана больш за 100 кніжак і каля 200 экзэмпляраў розных часопісаў. Навязаная лучнасьць з Аргентынскімі ўладамі, асабліва Коордынасіон Фэдэраль, з іншанацыянальнымі арганізацыямі, у асаблівасьці з Украінай, Славакіяй, Летувой, Харватыяй, Польшчай ды іншымі.

Старшыня ЗБА браў удзел у многіх канфэрэнцыях, ладжаных нацыянальнымі арганізацыямі й Коордынасіон Фэдэраль. Дзякуючы нашай актыўнасьці пра Беларусь і пра нас Аргентынская прэса пісала 32 разы.

Былі высланы мэмарандумы адносна беларусаў у Аргентыне Міністэрству ўнутраных справаў і Міністэрству замежных і культурных справаў Аргентыны. А таксама ліст у дырэкцыю «Голас Амэрыкі» ў справе ўключэньня беларускае мовы ў сваіх перадачах, прывітальная тэлеграма Прэзыдэнту Пэрону з нагоды яго выбараў Прэзыдэнтам Рэспублікі на другую кадэнцыю.

1951 год быў выбарчым годам Прэзыдэнта і заступніка Аргентынскай Рэспублікі. З гэтай нагоды былі дадзены неабмежаваныя свабоды дзеяньня як для правых, так і для левых арганізацыяў, з чаго скарыстала суполка «Беларускі очаг», абнавіўшы сваю дзейнасьць.

Управа ЗБА заплянавала сяброўскую вечарыну і канцэрт на 30 чэрвеня 1951 году. Таксама на гэты дзень «Очаг» абʼявіў свае танцы. Упершыню ўправа ЗБА выдрукавала вялізарныя плякаты, рэклямуючы свой вечар у Чэхаславацкім клюбе ў горадзе Валетын Альсына, ды ноччу пазаклейвала плякаты «Беларускага Очагу». Вечарына й канцэрт удаліся вельмі добра, на іх прыбылі беларусы з старой эмігрцыі.

Управа ЗБА, заахвочаная посьпехам папярэдняй вечарыны, пастанавіла яе паўтарыць 27 кастрычніка ў гэтым самым клюбе. Гэтым разам таксма былі выдрукаваныя вялікія плякаты і лятучкі, якія рэклямавалі аркэстру «Амэрыка» і канцэрт з выступленьнямі балетмайстра Уладзіміра Катовіча з балярынай Верай Безуглавай.

(Заканчэньне ў наступным нумары)

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ

## Панацэя ад радыяцыі

26 красавіка споўнілася 6 гадоў з пачатку нашай трагедыі, нашага агульнага гора, чорнай навалы—Чарнобыля. Чарнобыль забраў і працягвае забіраць у нас тысячы жыцьцяў. А колькі яшчэ людзей асуджана на пакуты? Пад пагрозай выміраньня апынулася беларуская нацыя. Нават тыя, хто, здавалася-б сёньня яшчэ здаровы, мае 90 працэнтаў шансаў захварэць заўтра. Імунітэтная сыстэма беларусаў аслабленая. А недахоп мэдыцыны, элемэнтарных вітамінаў і антыбіётыкаў, нават для цяжка хворых, зьмяншаюць і без таго малыя шансы на нашае выжываньне. І ўсётакі хочацца спадзявацца, што Бог не пакіне нас ў страшнай бядзе. Дзе-ж знайсьці панацэю ад радыяцыі?

Народны лекар Валеры Бікташеў добра вядомы ў Гомелі, дзе ён ўзначальваў арганізаваны ім Гомельскі фонд Народнай мэдыцыны. Як кастапраў, ён выратаваў ад пакутаў не аднаго чалавека. Аб яго працы неаднаразова расказвалі па былому Цэнтральнаму тэлебачаньню, пісаў беларускі, украінскі, татарскі, расейскі, ангельскі друк.

Сёньня Валеры Бікташеў працуе кастаправам у Кліўлендзе. Ён удзельнічае ў сэмінарах кастаправаў ЗША. Валеры Бікташеў прапануе часопісу «Полацак» адкрыць разьдзел «Парады народнага лекара», у якім друкаваць старажытныя але прызабытыя рэцэпты, што доўгія гады выкарыстоўваюць народныя лекары.

У гэтым нумары Валеры Бікташеў прапануе правераны рэцэпт па зьмяньшэньню радыяцыі у крыві і павышэньню імунітэтнасьці арганізму.

**Для прыгатаваньня цэлебнага эліксіра неабходна мець корнь лапуха, кветкі рамонку, а таксама веру ў выздараўленьне.**

**1 чайную ложку сухога корня лапуха і 1 чайную ложку кветак сухога рамонку заліць зь вечара 1 шклянкай кіпятку і пераліць ў тэрмас, каб настаяўся за ноч.**

**Раніцой раствор трэба працэдзіць і выпіць невялікімі глыткамі, стоячы тварам да ўсходу сонца. У сэрцы павінна быць любоў. У думках — лагоднасьць, удзячнасьць Богу, надзея на выратаваньне. Псыхалягічны фактар адыгрывае значную ролю пры лячэньні. Добры настрой і надзея дапамагаюць выздараўленьню.**

**Піць эліксір трэба 21 дзень, кожную раніцу. Потым зрабіць 7 дзён перапынку, пасьля чаго 21-дзённый курс пачаць зноў. Пасьля другога месяца пацыент адчуе, што ў яго палепшыўся зрок, памяць, зьявілася гібкасьць у суставах. Аднак прыпыняць курс лячэньня (21 дзён прыёму эліксіру і 7 дзён адпачынку) нельга. Яго трэба працягваць цэлы год. Пасьля 2 гадоў курс трэба будзе паўтарыць яшчэ адзін раз.**

*Увага: Зарыхтоўваць корань лапуха лепш позьняй восеньню або раньняй вясной пры зьяўленьні першых лісткоў бярозы.*



# ВОБРАЗЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## «Мураванка»

Андрэй Карпук

Царква-крэпасьць у вёсцы Мураванка Шчучынскага раёна Горадзенскай вобласьці, вядомая яшчэ як Маламажэйкаўская царква, пабудавана, верагодна, каля 1524 году. Будавалася яна непадалёк ад маёнтка Шымкі Мацкевіча Шлёнскага, падканюшага Віленскага, як праваслаўная царква на ягоныя сродкі. Гэта вельмі цікавы помнік беларускага дойлідзтва, так званай беларускай готыкі. У гэтым храме рысы абарончага дойлідзтва зьліліся зь пераасэнсаванымі рысамі позьняй готыкі і нават элементамі рэнесансу.

Пабудаваная з цэглы царква амаль прамакутная ў пляне аб'ему, па вуглах мае круглыя шатровыя вежы, ступенчаты франтон галоўнага фасаду і вялікую паўцыркульную апсіду. Чырвоныя цагляныя сьцены зь вялікімі вокнамі і шматлікімі байніцамі, аздобленыя атынкаванымі бееленымі нішамі рознай велічыні і формы, пакідаюць вялікае ўражаньне. Ня меньш ўражвае інтэр'ер храма, даволі просты, але вельмі сьветлы, чысты, нейкі радасны. Васьмігранныя калоны нясуць вабячыя сваім хараством зорчатыя з прафіляванымі нервюрамі і сотавыя скляпеньні. Інтэр'ер мае вельмі добрую акустыку.

З канца ХУІ і да ХУІІІ ст. царква існавала як вуніяцкая. Яна значна пацярпела пад час расейска-польскай (1569 г.) і руска-швэдскай (1706 г.) войнаў. Пасьля доўгага перыяду запусьценьня, рабаваньня, царкву адрамантавалі на пачатку XIX ст. і зноў пераўтварылі у праваслаўны храм, які існуе амаль да 20-х гадоў нашага веку. Пад час панаваньня Польшчы і да савецкага пэрыяду ў храме дзейнічаў касьцёл. Пазьней безгаспадарная царква Раства прэсьвятой Багародзіцы пачала паступова разбурацца. Не дапамагла помніку і зьмешчаная на ім ахоўная дошка. Здавалася, што менавіта яе, гэтую дошку, а не храм, ахоўвае дзяржава. Аднак тоўстыя цагляныя сьцены, дах (дахоўка на храме захавалася з ХУІ стагодзьдзя) значна пацярпеўшы, вытрымалі ўсе выпрабаваньні. І вось, нарэшце, Маламажэйкаўская царква Раства прэсьвятой Багародзіцы зноў атрымала сваіх першапачатковых гаспадароў. Зноў тут дзейнічае праваслаўны храм.

*Выгляд царквы гл. на 4-й бачынцы вокладкі*

### Бібліяграфія


1. Древности. Труды Комиссии...» т. 6. СПб., 1915 г. Гл. арт. І.Іадкоўскага «Церкви, приспособленные к обороне в Литве «Литовской Руси». ст. 321-341

2. «Маломожейковская «Мурованая церковь» Вильна, 1907.

3. Шчакаціхін М.М. Нарысы зь гісторыі беларускага мастацтва. т.1, Менск, 1928 ст.242-243.

4. Ткачоў М.А. «Абарончыя збудавньні заходніх зямлель Беларусі XIII-ХУІІІ ст». Мн., 1978. ст. 121-124.

5. Мало-Можейковская Рождество-Богородицкая церковь Лидского уезда Виленкой губерни, Виленский календарь на 1908 г.

# «Па сонца, па долю!»

Валянтына Мароз

1992 год ў Беларусі асьвечаны імёнамі славутых песьняроў нашага краю Я. Купалы й Я.Коласа. Уздым юбілейных урачыстасьцяў прыпадзе на лета і восень, але сьвята ўжо рушыць па Беларусі. Пачалося яно у Берасьце. На філёлягічным факультэце Берасьцейскага пэдагагічнага інстытута ў межах сьвята Незалежнасьці, якое праходзіла з 17 да 25 сакавіка, была праведзена навукова-творчая канфэрэнцыя «Па сонца, па долю!» да 110-х угодкаў зь дня нараджэньня і 50-х угодкаў зь дня сьмерці Янкі Купалы. Адкрыцьцё канфэрэнцыі невыпадкова прыпадала на 25 сакавіка —Дзень Волі. Бо хіба можна ўявіць Купалаў геній бяз Вольнае, Незалежнае Беларусі? Гэтая думка прагучала ва ўступным слове прафэсара Берасьцейскага пэдагагічнага інстытута Ўладзіміра Калесьніка. На плэнарным паседжаньні выступілі таксама член-карэспандэнт АН Беларусі, доктар філёлягічных навук прафэсар Алег Лойка, дацэнт Менскага пэдагагічнага інстытута Іван Шпакоўскі, кандыдат філёлягічных навук, прафэсар Берасьцейскага пэдагагічнага інстытута Аляскей Майсейчык.

Студэнты і выкладчыкі мелі магчымасьць засяродзіцца на глабальных праблемах успрыняцьця Янкі Купалы ў кантэксьце сусьветнае літаратуры, яго творчасьці ў кантэксьце адраджэньня 20-х гадоў і сучаснага адраджэньня.

Пра тэматычную разнаплянавасьць выступленьняў дыскусіі можна меркаваць нават па пераліку дакладаў: «Янка Купала ва ўспрыманьні Паўліны Мядзёлкі» (Ул.Калесьнік), «Літаратура сярэднявечча і рамантычная канцэпцыя Маладой Беларусі ў пэзіі Купалы» (Г.Праневіч), «Публіцыстыка Янкі Купалы 20-х гадоў» (З.Мельнікава), «Патрыятычнае выхавньне падлеткаў пры вывучэньні лірыкі Купалы ў 10-м клясе» (В.Зарэцкая), «Афарыстычнае слова Купалы» (Г.Малажай), «Стылістычная роля полісэміі ў паэмах Янкі Купалы» (А.Шылава), «Слова ў кантэксьце публіцыстычных артыкулаў Янкі Купалы» ( М.Новік).

Пасьля традыцыйнага падвядзеньня вынікаў на вячэрнім плэнарным паседжаньні адбылася імпрэза «Сьвята Маладой Беларусі». Зь вялікай канцэртнай праграмай выступіў вядомы бард Алег Атаманаў.



На здымку: Алег ЛОйка адказвае на пытаньні ўдзельнікаў канфэрэнцыі. Фота Ул.Сухапара.

# ЗЬ ЖЫЦЬЦЯ ЭМІГРАЦЫІ

## Christ is Risen! Indeed He is Risen!

Orthodox Christians everywhere will be exchanging greetings all over world, in many different languages, in many different places. No matter what language and no matter what place, "Christ is Risen!" Is the most powerful statement ever made or will be made on this earth.

We sing songs of joy that "Christ is Risen from the dead", because by His Death and Resurrection, He has overcome death, not only for Himself, but for all of us who believe in Him.

With great joy we sing over and over again, a song from our hearts praising our God, for His most wonderful gift of life.

*Easter Sunday is coming. We come to Church to worship Easter, let our voices* cry out as we sing our songs faithfully. Let us proclaim to one another "Christ in Risen!"

I and all my family send to you our warmest greetings!

Rev. Michael Strapko



## На першы дзень на Вялікадня



Вясна красна, на ўвесь сьвет!

У словах гэтай старажытнай песьні закладзены мудры сэнс. Вялікдзень прыходзіць на нашую зямлю, калі пасьля зімніх халадоў і сьцюжы ажывае зямля. А разам зь ёю ажываюць і нашыя надзеі. Вялікдзень дорыць нам вялікае сьвяты душы, надзею на лепшае, прыводзіць з сабой Вясну-красну.

Пасьля Вялікай Пятніцы, 29 красавіка а поўначы ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе пачаўся хрэстны ход. І пачулі ўсе: «Хрыстос Уваскрос!» І засьвяціліся усьмешкамі людзкія твары.

Пасьля сьв.Літургіі, якую адслужылі а.Міхась Страпко і іераманах Якуб. адбылося асьвячэньне кошыкаў з пасхай і рознакаляровымі маляванкамі. А потым многія прыхажане царквы Жыровіцкае Божае Маці засталіся на сумеснае разгаўленьне.





Рэканструкцыя касьцюма жанчыны XI ст.
в. Чарневічы, Глыбоцкі раён, Віцебская вобласьць.

